# ЗАЎТРА—ПЕРШАЕ МАЯ

## СА СВЯТАМ, ТАВАРЫШЫ!

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 18 (2544)
ПЯТНІЦА
30
красавіка 1971

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# 26–27 КРАСАВІКА Ў МІНСКУ ПРАЦАВАЎ VI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



Прэзідыум з'езда. На трыбуне—Максім Танк.

Фота Ул. КРУКА.

## VI З'ЕЗДУ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Дарагія таварышы!

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача вітае VI з'езд пісьменнікаў рэспублікі і жадае празаікам і паэтам, драматургам і перакладчыкам, літаратуразнаўцам і крытыкам, усім членам Саюза пісьменнікаў і літаратурных аб'яднанняў новых творчых поспехаў у імя далейшага развіцця і росквіту савецкай літаратуры, паспяховага выканання велічных планаў камуністычнага будаўніцтва.

Беларуская савецкая літаратура з'яўляецца неад'емнай часткай вялікай савецкай шматнацыянальнай літаратуры. Прасякнутая духам партыйнасці, адданага служэння справе народа, яна ўносіць значны ўклад у вырашэнне грандыёзных задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, выступае магутнай сілай ідэйна-эстэтычнага выхавання працоўных, развівае і ўмацоўвае ў іх цудоўныя маральныя якасці, страсна прапагандуе перадавыя ідэі нашага часу.

Апошнія гады ў жыцці беларускай пісьменніцкай арганізацыі характарызуюцца больш актыўнымі творчымі пошукамі. Створаны шэраг яркіх твораў, якія выхоўваюць у савецкіх людзей пачуццё гонару за сваю Радзіму, за свой народ, за яго вялікія подзвігі і здзяйсненні. Значна выраслі рады пісьменніцкай арганізацыі за лік здольнай літаратурнай моладзі.

Адзначаючы ўсё большую ролю літаратуры і мастацтва ў стварэнні духоўнага багацця сацыялістычнага грамадства, XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза паставіў перад творчай інтэлігенцыяй новыя адказныя задачы. З'езд падкрэсліў, што савецкі народ зацікаўлены ў стварэнні такіх твораў, у якіх бы праўдзіва адлюстроўвалася рэчаіснасць, з вялікай мастацкай сілай усталёўваліся ідэі камунізма.

Духоўныя і культурныя запатрабаванні народа, якія няспынна павялічваюцца, патрабуюць ад пісьменніка плённай працы па стварэнні высокамастацкіх вобразаў сучаснага савецкага рабочага, працаўніка калгаснай вёскі, прадстаўніка народнай інтэлігенцыі. Сілай мастацкага слова кожны твор павінен пастаянна служыць вялікай справе барацьбы за камуністычныя ідэалы, глыбока і ўсебакова раскрываць веліч і маштабы стваральнай працы савецкіх людзей, несці свету праўду пра наша грамадства, пра сацыялістычны лад жыцця.

Саюз пісьменнікаў Беларусі заклікаы быць баявым арганізатарам літаратурнага жыцця ў рэспубліцы, праяўляць паўсядзённую ўвагу да творчых праблем літаратуры, павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню і прафесійнага майстэрства членаў саюза, выхавання высокай адказнасці ў літаратараў за сваю працу перад грамадствам, усямерна ўмацоўваць садружнасць з вытворчымі калектывамі. Камуністычная партыйнасць, высокая ідэйнасць, класавы падыход да з'яў жыцця, патрабавальныя адносіны да майстэрства — гэтыя галоўныя прынцыпы літаратуры сацыялістычнага рэалізму павінны быць арганічна ўласцівы дзейнасці кожнага літаратара.

Вялікая адказнасць ускладаецца на літаратурную крытыку, задача якой — паслядоўна праводзіць лінію партыі, тактоўна і ў той жа час вельмі патрабавальна ставіцца да мастака, усямерна садзейнічаючы стварэнню твораў, якія хвалявалі б глыбінёй разумення жыцця, сілай ідэйнага пафасу і высокай мастацкай дасканаласцю.

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі выказвае цвёрдую ўпэўненасць у тым, што пісьменнікі рэспублікі, верныя агульнанароднай справе будаўніцтва камунізма, будуць і надалей усе свае творчыя сілы аддаваць беззапаветнаму служэнню народу, дастойна адлюстроўваць яго велічныя здзяйсненні, сцвярджаць вернасць савецкіх людзей усёпераможнаму сцягу вялікага Леніна.

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.

# ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ
# КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**Пісьменнікі Савецкай Беларусі, сабраўшыся на свой VI з'езд, шлюць выпрабаванаму ленінскаму штабу нашай партыі шчырае палымянае прывітанне.**

**Наш з'езд праходзіць у дні высокага працоўнага ўздыму, выкліканага XXIV з'ездам роднай Камуністычнай партыі. Савецкія пісьменнікі з вялікай увагай сачылі за работай гэтага знамянальнага, гістарычнага з'езда, які выпрацаваў навукова-абгрунтаваную праграму жыцця і дзейнасці савецкага грамадства, асвятліў шлях да новых поспехаў камуністычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе.**

**Мы, савецкія пісьменнікі, глыбока ўдзячны Камуністычнай партыі, яе Цэнтральнаму Камітэту за клопаты аб развіцці літаратуры і мастацтва. У Справаздачным дакладзе Цэнтральнага Камітэта КПСС XXIV з'езду і ў рашэннях з'езда падкрэслена палажэнне аб узрастаючай ролі літаратуры і мастацтва ў фарміраванні светапогляду савецкага чалавека, яго маральных перакананняў, духоўнай культуры, падкрэсліваецца тая вялікая ўвага, якая надаецца партыяй ідэйна-мастацкаму зместу літаратуры і мастацтва.**

**Пісьменнікі Беларусі, як і ўсе савецкія літаратары, непахісна захоўваюць вернасць прынцыпам ленінскай партыйнасці і народнасці літаратуры. Непарыўная сувязь з жыццём народа, непрымірымасць да любых праяў чужой нам буржуазнай ідэалогіі, праўдзівае і высокамастацкае адлюстраванне нашай савецкай рэчаіснасці — непарушныя законы нашай творчасці.**

**Савецкі народ, краіна сацыялізма выйшлі на новы рубеж свайго развіцця. Распрацаваны і зацверджаны XXIV з'ездам КПСС велічны план дзевятай пяцігодкі, выкананне якога яшчэ больш расшырыць і ўмацуе матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма, з'явіцца новым магутным крокам нашай краіны наперад. Адной з галоўных задач на гэтым этапе камуністычнага будаўніцтва партыя лічыць задачу фарміравання новага чалавека, высокасвядомага, усебакова развітага, актыўнага будаўніка камунізма.**

**У ажыццяўленні гэтай задачы нямала можам зрабіць і мы, савецкія пісьменнікі. Мы павінны няспынна павышаць сваё прафесійнае майстэрства, глыбока вывучаць жыццё і побыт савецкіх людзей, працэс духоўнага росту чалавечай асобы, ствараць яркія вобразы нашых сучаснікаў, перш за ўсё людзей працы з іх штодзённымі гераічнымі справамі, думамі, пачуццямі. Савецкі чалавек ва ўсёй велічы яго спраў, клопатаў, імкненняў, наш сучаснік — вось асноўны герой нашых твораў.**

**Беларускія пісьменнікі ўсведамляюць, якія адказныя і пачэсныя задачы стаяць перад імі, якіх новых высокаідэйных і высокамастацкіх твораў чакаюць ад іх партыя, народ. Яны разумеюць, што знаходзяцца на адным з важнейшых участкаў камуністычнага будаўніцтва і ідэалагічнай барацьбы.**

**Мы запэўняем Цэнтральны Камітэт КПСС, што прыкладзём усе сілы і здольнасці, каб апраўдаць вялікі давер партыі, быць на вышыні тых задач, якія пастаўлены перад літаратурай рашэннямі XXIV з'езда КПСС. Мы будзем і надалей кіравацца ў сваёй творчасці вялікімі ленінскімі прынцыпамі партыйнасці і народнасці ў літаратуры, выпрабаваным метадам сацыялістычнага рэалізму, будзем нястомна аберагаць нашы светлыя ідэалы ад усякіх праяў і ўплываў буржуазнай ідэалогіі.**

**У нас, пісьменнікаў, няма больш важнай, адказнай і пачэснай задачы, як нястомнае змаганне за чысціню марксісцка-ленінскага светапогляду ў літаратурнай творчасці, як глыбокае авалодванне вышынямі камуністычнай ідэйнасці, — каб нашы творы былі заўсёды варты нашага народа, каб яны дапамагалі роднай партыі ў выхаванні чалавека камуністычнай будучыні.**

**Няхай жыве Камуністычная партыя — наш мудры кіраўнік і настаўнік, натхніцель і арганізатар нашых перамог!**

**Няхай жыве яе Ленінскі Цэнтральны Камітэт!**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ
# VI З'ЕЗДА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

VI з'езд пісьменнікаў Савецкай Беларусі праходзіць пад знакам гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Разглядзеўшы пытанні палітычнай, эканамічнай, ідэалагічнай і арганізацыйнай дзейнасці партыі, падвёўшы вынікі гераічнай працы савецкага народа ў мінулым пяцігоддзі, з'езд распрацаваў выразную палітычную лінію, вызначыў натхняючыя перспектывы далейшага развіцця нашай краіны. У Рэзалюцыі па Справаздачным дакладзе ЦК КПСС і Дырэктывах па новым пяцігадовым плане намечана ясная праграма новага ўздыму эканомікі і культуры, павышэння дабрабыту працоўных, развіцця сацыялістычнай дэмакратыі і далейшага ўмацавання адзінства савецкага грамадства.

Беларускія пісьменнікі, як і ўвесь наш народ, усім сэрцам прынялі ідэі і рашэнні партыйнага форуму і гатовы аддаць усе свае сілы ажыццяўленню гэтых рашэнняў, вернаму служэнню вялікай справе камунізма. Нас па-сапраўднаму радуе і акрыляе той важны факт, што на з'ездзе партыі вялікая ўвага была аддадзена літаратуры, яе ідэйна-выхаваўчай ролі ў грамадскім жыцці. Партыя падкрэсліла яшчэ раз, што «яна высока цэніць талент мастака, ідэйную, камуністычную накіраванасць яго творчасці, непрымірымасць да ўсяго, што перашкаджае нашаму руху наперад».

Верная ленінскім прынцыпам партыйнасці і народнасці, беларуская літаратура зрабіла за справаздачны перыяд значны крок наперад, выйшла на новыя творчыя рубяжы. Узмацнілася яе ідэйнае гучанне, пашырыўся тэматычны дыяпазон, вырас мастацкі ўзровень. Мінулыя гады былі адзначаны такімі вяхамі ў жыцці народа, як 50-годдзе Вялікага Кастрычніка, 50-годдзе нашай рэспублікі і Кампартыі Беларусі, як 25-годдзе Перамогі і вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і слаўнае 100-годдзе з дня нараджэння Ул. І. Леніна. Гэтыя знамянальныя гадавіны садзейнічалі творчай актывізацыі пісьменніцкага калектыву, умацаванню сувязей з жыццём народа, павышэнню ідэйнасці і баяздольнасці нашай літаратуры. Як адно з важных дасягненняў яе за апошні час мы разглядаем той факт, што новымі творамі ўзбагацілася беларуская Ленініяна. Далейшае развіццё атрымала гісторыка-рэвалюцыйная тэматыка. Павысілася цікавасць пісьменнікаў да гераічнага мінулага народа, да яго змагання за новы лад, новае жыццё, новага чалавека. Знаходзіла адлюстраванне ў многіх творах прозы і паэзіі суровая памяць мінулай вайны, гераічнага змагання савецкіх людзей з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

У той жа час беларуская літаратура імкнулася паказваць нашу сённяшнюю рэчаіснасць, жыццё, справы, праблемы, духоўны свет нашага сучасніка — будаўніка камунізма. І тут у нас таксама ёсць здабыткі і дасягненні.

Але, гаворачы аб тым значным уздыме, які мае наша літаратура, мы не павінны забываць, што нельга спыняцца на дасягнутым, што перад намі шмат яшчэ нявырашаных задач. У Справаздачным дакладзе XXIV з'езда партыі было сказана, што «ў нас усё яшчэ з'яўляецца нямала твораў не глыбокіх па змесце, не выразных па форме». Гэтых недахопаў было б значна менш, каб пісьменнікі больш глыбока вывучалі жыццё і з большай грамадзянскай і творчай актыўнасцю і адказнасцю адлюстроўвалі яго, «калі б наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, выступала з большай прынцыповасцю, спалучаючы патрабавальнасць з тактам, з клапатлівымі адносінамі да стваральнікаў мастацкіх каштоўнасцей». Гэтыя заўвагі маюць самае непасрэднае дачыненне да нашай беларускай літаратуры, да нашай крытыкі.

З'езд звяртае асаблівую ўвагу на той факт, што ў нас усё яшчэ друкуецца нямала твораў, слабых у ідэйна-мастацкіх адносінах, павярхоўных, пазбаўленых жыццёвай праўды. Яшчэ далёка недастаткова вырашаецца тэма працы ва ўсёй яе складанасці і глыбіні, няпоўна, а часам і слаба адлюстроўваюцца тыя працэсы і з'явы, што адбываюцца сёння як на нашых фабрыках і заводах, так і ў жыцці калгасна-саўгаснай вёскі. І тут павінна адыграць сваю ролю наша крытыка, якая з перадавых пазіцый заклікана высвятляць стан літаратуры на пэўным этапе, аналізаваць прычыны адставання ад жыцця, даваць ацэнкі творам і тэндэнцыям, адкрываць новыя далягляды нашай літаратуры.

У рэзалюцыі XXIV з'езда КПСС пастаўлена высакародная задача перад творчымі саюзамі краіны. «З'езд лічыць, — запісана ў партыйным дакуменце, — што саюзы пісьменнікаў, кінематаграфістаў, мастакоў, кампазітараў, работнікаў тэатра, архітэктараў заклікаць праяўляць штодзённую ўвагу да творчых праблем развіцця літаратуры і мастацтва, павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню і прафесійнага майстэрства членаў саюзаў, выхавання высокай адказнасці ў дзеячоў літаратуры і мастацтва за сваю працу перад грамадствам, усямерна ўмацоўваць садружнасць творчых работнікаў з вытворчымі калектывамі».

За справаздачны перыяд Саюз пісьменнікаў БССР дамогся прыкметных дасягненняў ва ўсіх галінах сваёй дзейнасці. Шмат зроблена па ўмацаванні творчых сувязей нашай літаратуры з літаратурамі братніх рэспублік і краін сацыялістычнай садружнасці, палепшылася прапаганда літаратуры. Пашырылася і стала больш дзейснай сувязь пісьменнікаў з працоўнымі як горада, так і вёскі, праведзена значная работа з маладымі літаратарамі, больш актыўна і мэтанакіравана сталі працаваць творчыя секцыі, павысілася актыўнасць пісьменнікаў як у творчых, так і ў грамадскіх справах. Але ў той жа час у рабоце Саюза пісьменнікаў было і нямала недахопаў. Не заўсёды стала і прадумана арганізоўваўся ўвесь творчы працэс у калектыве, слабым звяном была непасрэдная творчая работа з аўтарамі: разгляд новых твораў, асабліва маладых аўтараў, аказанне дапамогі пісьменнікам у павышэнні іх ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню і прафесійнага майстэрства.

Новаму Праўленню Саюза неабходна прыняць самыя дзейсныя меры для таго, каб узняць на высокі ўзровень усе звенні творчай і выхаваўчай работы ў саюзе, шырока ўцягваючы ў яе літаратурную моладзь, каб больш стала і канкрэтна спрыяць пісьменніцкай працы, аказваць кожнаму таленавітаму мастаку слова як маральную, так і матэрыяльную падтрымку, прымаць далейшыя захады да павелічэння тыражоў перыядычных выданняў органаў СП і кніг, пашырэння выдавецкай справы, у прыватнасці — стварэння выдавецтва мастацкай літаратуры.

З'езд лічыць першачарговым абавязкам кожнага пісьменніка праяўляць пільную ўвагу да праблем сучаснасці, стварэння высокамастацкіх вобразаў людзей працы, надаючы асаблівую ўвагу тэме рабочага класа і новых з'яў у жыцці калгаснай вёскі.

Наша краіна, увесь наш народ з вялікім натхненнем і рашучасцю прыступіў да ажыццяўлення тых велічных задач, якія вызначаны новым пяцігадовым планам. З'езд пісьменнікаў БССР заклікае ўсіх літаратараў рэспублікі актыўна ісці поруч з народам, быць нястомнымі памочнікамі ў здзяйсненні тых гістарычных прадвызначэнняў партыі, якія вядуць наша грамадства да светлых вышынь камунізма.

З'езд выказвае цвёрдую ўпэўненасць, што пісьменнікі Беларусі прыкладуць усе намаганні да таго, каб заўсёды быць вартымі вялікага даверу партыі і народа, каб быць на ўзроўні тых вялікіх задач, якія ставіць перад літаратурай вялікая справа камуністычнага будаўніцтва.

**У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...**



І. Мележ, І. Шамякін, Г. Маркаў, А. Куляшоў, П. Панчанка, М. Нагнібяда, М. Лужанін.



Н. Гілевіч і госць з Азербайджана М. Ібрагімаў

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА НА НОВЫМ УЗДЫМЕ

## Даклад першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Максіма ТАНКА

МЫ ТОЛЬКІ што заслухалі хвалюючыя словы прывітання ЦК Камуністычнай партыі Беларусі VI з'езду пісьменннікаў нашай рэспублікі.

Мы да глыбіні душы ўзрушаны высокай ацэнкай нашай творчай працы, увагай да яе, штодзённымі клопатамі партыі аб нашай літаратуры. Гэтыя клопаты з выключнай сілай і глыбінёй праявіліся у гістарычных дакументах XXIV з'езда КПСС.

Дазвольце, таварышы, ад імя ўсіх удзельнікаў VI з'езда пісьменнікаў Беларусі выказаць за гэта нашу шчырую падзяку і запэўніць ЦК, што мы, пісьменнікі Савецкай Беларусі, заўсёды былі і будзем з нашай ленінскай партыяй, не шкадуючы сваіх сіл і здольнасцей адстойваць і развіваць прынцыпы сацыялістычнага рэалізму, партыйнасці і народнасці нашай літаратуры, самааддана змагацца за вялікую справу—стварэнне камуністычнага грамадства.

Таварышы!

Наш VI з'езд пісьменнікаў Беларусі асветлены такой знамянальнай у жыцці савецкага народа падзеяй, як XXIV з'езд КПСС, які падвёў вынікі дасягненняў і намеціў велічныя перспектывы далейшага развіцця нашай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры.

Рашэнні з'езда маюць першараднае значэнне для ўсёй нашай вялікай шматнацыянальнай літаратуры. Вялікай—бо гэта літаратура натхнёна несмяротнымі ідэямі Леніна, непарыўна звязана з палітыкай партыі, прасякнута гарачым пачуццём савецкага патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, гаворыць праўду аб сваім народзе. Вось чаму наша літаратура прыцягвае ўвагу і карыстаецца любоўю ў мільёнаў чытачоў ва ўсім свеце. Яна першая сказала сваё слова аб народжаным рэвалюцыяй героі—будаўніку новага сацыялістычнага ладу, аб героі, які ў суровых выпрабаваннях адстаяў будучыню ўсяго чалавецтва.

Гады паміж нашымі з'ездамі былі надзвычай багатыя такімі незабыўнымі падзеямі, як 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 50-годдзе нашай рэспублікі і Кампартыі Беларусі, як 25-годдзе Перамогі і вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, як слаўнае 100-годдзе з дня нараджэння Ул. І. Леніна, з чыім імем звязаны ўсе нашы дасягненні, усе велізарнейшыя пераўтварэнні ў гісторыі чалавецтва. Гэтыя слаўныя гадавіны не толькі яшчэ раз прыкавалі ўвагу ўсіх нас да векапомных падзей, яны яшчэ больш выразнымі вяхамі запалалі на слаўным шляху развіцця і поступу да камунізма, яшчэ вышэй ўздымаючы працоўны гераізм нашага народа, садзейнічаючы яшчэ большаму ажыўленню ўсіх творчых сіл, умацаванню сувязей з жыццём народа, павышэнню ідэйнасці і баяздольнасці нашай літаратуры.

Кожны чарговы з'езд пісьменнікаў з'яўляецца значнай падзеяй у нашай творчай арганізацыі. І гэта зразумела. На кожным з'ездзе мы робім агляд нашых дасягненняў, абменьваемся думкамі, стараемся аб'ектыўна разабрацца ў недахопах, якія адчуваем у сваёй працы і намячаем далейшыя планы, заданні і шляхі развіцця нашай літаратуры. Гэта ўжо стала не толькі добрай традыцыяй, але і неабходнасцю, асабліва, калі гутарка ідзе аб вырашэнні і абмеркаванні шматлікіх творчых і арганізацыйных пытанняў, якія патрабуюць самага шырокага і аўтарытэтнага пісьменніцкага форуму і калектыўнай мудрасці.

ЧАС, ЯКІ прайшоў ад мінулага да сённяшняга з'езда пісьменнікаў Беларусі, хоць і вымяраецца ўсяго некалькімі гадамі і нават можа гадамі не самымі ўраджайнымі,—унёс свае прыкметныя змены і карэктывы ў наша літаратурнае жыццё.

Справа не толькі ў тым, што за гэты час адны з нас пастарэлі ці пасталелі, другія, маладзейшыя, узмужнелі, сталі вядомымі майстрамі слова, трэція, якія перад гэтым пачыналі сваю творчую біяграфію, сёння, што нас усіх шчыра радуе, значна папоўнілі рады нашай пісьменніцкай арганізацыі, прынёсшы з сабой шмат новых тэм і праблем, узбагаціўшы нашу літаратуру сваімі цікавымі і таленавітымі творамі. За гэты час многія спрэчныя творы і пытанні прайшлі самую суровую праверку жыццём і занялі—не як гэта часта бывае, завышанае або заніжанае месца—а месца, адпаведнае іх ідэйным і мастацкім вартасцям.

Як вядома, за апошнія пасляваенныя гады шмат адбылося падзей, якія змянілі аблічча свету. Але самае знамянальнае— гэта тое, што змены гэтыя адбыліся ў напрамку, у якім яшчэ раней прадбачыў іх развіццё Ленін, прадбачыла ўзброеная яго празорлівасцю партыя. Таму вывучэнне вялікай ленінскай спадчыны для нас мае першараднае значэнне ва ўмацаванні сувязей з жыццём народа, у павышэнні адказнасці за сваю творчасць і за яе ідэйную накіраванасць. Бо ў кожнай творчай працы, і асабліва ў нашай пісьменніцкай, ідэйнае ўзбраенне, ідэйная загартоўка, ідэйная пазіцыя—маюць рашаючае значэнне.

Аб гэтым пераканаўча гаворыць той факт, што, не зважаючы на ўсе намаганні нашых непрыяцеляў, ім не ўдалося дабіцца нейкіх прыкметных поспехаў, дабіцца таго, каб наша літаратура сышла з ленінскага курсу. Яны самі зараз змушаны прызнацца, што на гэта ў іх няма ніякай надзеі, хоць для сваёй дыверсійнай работы яны мабілізавалі велізарнейшыя сродкі прапаганды. Вось толькі некаторыя лічбы (дадзеныя з часопіса «Агитатор»—орган ЦК КПСС): калі ў 1947 годзе «Голас Амерыкі» і «Бі-бі-сі» ў сярэднім на Савецкі Саюз перадавалі па 1 гадзіне ў тыдзень, дык у 1956—ужо больш 10 радыёстанцый перадавалі 144 гадзіны ў тыдзень, а зараз 35 замежных радыёстанцый перадаюць на 22 мовах Савецкага Саюза 200 гадзін у суткі. А калі дадаць да гэтага тэлеперадачы, кінафільмы, астранамічную лічбу антыкамуністычнай і рэваншысцкай літаратуры,—мы ўбачым, якія велізарнейшыя намаганні робяцца нашымі непрыяцелямі на гэтым ідэалагічным фронце, на якім зараз разыгрываюцца сапраўдныя баі і баі—не мясцовага значэння.

І нам гэтага нельга не ўлічваць. Каб не апынуцца ў ролі арміі, якая нічога не ведае, каб не карыстацца ўстарэлымі звесткамі аб узбраенні, намерах і тактыцы праціўніка.

У наш век—век спадарожнікаў, касмічных падарожжаў, турысцкіх, спартыўных і культурных кантактаў—ніводзін народ не жыве ізалявана. Сёння творы літаратуры нават самых малых народаў не абмяжоўваюцца палітычнымі граніцамі і бар'ерамі моў. І таму не самаізаляцыя, а наступальная тактыка заўсёды была і застаецца сутнасцю нашай літаратуры—літаратуры саялістычнага рэалізму, якая нясе з сабой праўду рэвалюцыі, праўду аб новым сацыялістычным грамадстве.

Апалагеты антыкамунізма ўсюды, дзе могуць, шукаюць і часамі, на вялікі жаль, знаходзілі і ў

## ПРЭЗІДЫУМ З'ЕЗДА

Алесь АСІПЕНКА
Шабдамбай АБДЫРАМАНАЎ — празаік, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Кіргізіі
Эдзі АГНЯЦВЕТ
АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ Л. П. — старшыня праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання
БАРЫСЕНКА В. В. — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР
БАГДАНАЎ У. С.— сакратар Мінскага абкома партыі
Пятрусь БРОЎКА — народны паэт Беларусі
Янка БРЫЛЬ
Генадзь БУРАЎКІН
Васіль БЫКАЎ
Васіль ВІТКА
Міхаіл ГАРБАЧОЎ — намеснік сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР па нацыянальных літаратурах
Мікалай ГАРУЛЁЎ
Іван ГРАМОВІЧ
ГРАМЫКА В. А. — старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР
Анатоль ГРАЧАНІКАЎ
Ілья ГУРСКІ
Набі ДАЎЛІ — паэт, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Татарыі
ДЗЕБАЛЮК А. В. — член ваеннага савета—начальнік Палітупраўлення ЧБВА
ДЗМІТРЫЕВА Т. Ц. — сакратар Мінскага гаркома партыі
ДУБАВЕЦ М. А. — сакратар Ленінскага райкома партыі г. Мінска
Юрый ЗБАНАЦКІ — першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Украіны
Мамед ІБРАГІМАЎ — паэт, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Азербайджана
Мікалай ІЛЬБЕКАЎ — празаік, народны пісьменнік Чувашыі
Павел КАВАЛЁЎ
Міхась КАЛАЧЫНСКІ
КАНАВАЛАЎ Р. В. — старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку
Кастусь КІРЭЕНКА
КІСЯЛЁЎ Ц. Я. — старшыня Савета Міністраў БССР
КЛІМАЎ І. Ф. — намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Уладзімір КОРБАН
КОРШ-САБЛІН У. У. — першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР
Кандрат КРАПІВА — народны пісьменнік Беларусі
КУЗЬМІН А. Т. — сакратар ЦК КПБ
Аляксей КУЛАКОЎСКІ
Аркадзь КУЛЯШОЎ — народны паэт Беларусі
Еўдакія ЛОСЬ
Максім ЛУЖАНІН
Міхась ЛЫНЬКОЎ — народны пісьменнік Беларусі
Георгій МАРКАЎ — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР
МАРЦЭЛЕЎ С. В. — загадчык аддзела культуры ЦК КПБ
МАТВЕЕЎ У. В. — старшыня праўлення Саюза журналістаў БССР
МАШЭРАЎ П. М. — кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ
Іван НАВУМЕНКА
Мікола Нагнібяда — паэт, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Украіны
Іван МЕЛЕЖ
ПАДРЭЗ У. І. — першы сакратар ЦК ЛКСМБ
Пімен ПАНЧАНКА
Нічыпар ПАШКЕВІЧ
Піліп ПЕСТРАК
Уладзімір ПІМЕНАЎ — рэктар Літаратурнага інстытута імя М. Горкага
ПОЛАЗАЎ М. Н. — старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафесіянальных саюзаў
Леанід ПРОКША
Іван ПТАШНІКАЎ
Аляксей ПЫСІН
Убайд РАДЖАБ — прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Таджыкістана
Алесь САВІЦКІ
Аляксандр СМЕРДАЎ — паэт, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў РСФСР
СЫРАКОМСКІ В. А. — першы намеснік галоўнага рэдактара «Литературной газеты»
СНЯЖКОВА Н. Л. — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР
Максім ТАНК — народны паэт Беларусі
Мікола ТКАЧОЎ
ТРЫФАНАВА Н. І. — інструктар аддзела культуры ЦК КПСС
Марат ТАРАСАЎ — паэт, адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Карэліі
Алексіс ХУРГІНАС — прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Літвы
Анатоль ЧАПУРОЎ — паэт, сакратар праўлення Ленінградскай пісьменніцкай арганізацыі
Аманжол ШАМКЕНАЎ — паэт, драматург, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Казахстана
Іван ШАМЯКІН
Азат ШАРАФУТДЗІНАЎ — крытык, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Узбекістана
ШПІТ Ю. В. — старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР
ШЫРМА Р. Р. — старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР
Рахім ЭСЭНАЎ — празаік, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Туркменіі
Петэрыс ЮРЦЫНЬШ — паэт, прадстаўнік Саюза пісьменнікаў Латвіі
Алесь ЯКІМОВІЧ

## САКРАТАРЫЯТ З'ЕЗДА

Мікола АЎРАМЧЫК
Алесь БАЖКО
Рыгор БАРАДУЛІН
Дзмітры БУГАЁЎ
Алена ВАСІЛЕВІЧ
Анатоль ВЯЛЮГІН
Васіль ЗУЁНАК
Уладзімір КАРПАЎ
Мікола ЛОБАН
Георгі ПАПОЎ
Аляксей РУСЕЦКІ
Барыс САЧАНКА
Язэп СЕМЯЖОН
Янка СІПАКОЎ
Янка СКРЫГАН
Тарас ХАДКЕВІЧ
Васіль ХОМЧАНКА
Іван ЧЫГРЫНАЎ
Уладзімір ЮРЭВІЧ

## РЭДАКЦЫЙНАЯ КАМІСІЯ З'ЕЗДА

Алесь АДАМОВІЧ
Алесь БАЧЫЛА
Мікола ГАМОЛКА
Леанід ГАЎРЫЛКІН
Ніл ГІЛЕВІЧ
Сяргей ГРАХОЎСКІ
Янка КАЗЕКА
Іван КАЛЕСНІК
Уладзімір КАРАТКЕВІЧ
Анатоль КУДРАВЕЦ
Алег ЛОЙКА
Васіль МАТЭВУШАЎ
Аркадзь МАЎЗОН
Аляксандр МІРОНАЎ
Іван НОВІКАЎ
Рыгор НЯХАЙ
Раман ТАРМОЛА
Уладзімір ШАХАВЕЦ
Рыгор ШКРАБА

## МАНДАТНАЯ КАМІСІЯ З'ЕЗДА

Вячаслаў АДАМЧЫК
Мікалай АЛЯКСЕЕЎ
Анатоль АСТРЭЙКА
Эдуард ВАЛАСЕВІЧ
Яўген ВАСІЛЁНАК
Віталі ВОЛЬСКІ
Анатоль ВЯРЦІНСКІ
Вера ВЯРБА
Аляксей ЗАРЫЦКІ
Уладзімір КАЛЕСНІК
Пятрусь МАКАЛЬ
Хаім МАЛЬЦІНСКІ
Міхась МАШАРА
Макар ПАСЛЯДОВІЧ
Уладзімір ПАЎЛАЎ
Паўлюк ПРАНУЗА
Раман САБАЛЕНКА
Браніслаў СПРЫНЧАН
Мікола ХВЕДАРОВІЧ
Анатоль ШАЎНЯ
Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ, абранае на VI з'ездзе

Эдзі АГНЯЦВЕТ
Антон АЛЕШКА
Мікалай АЛЯКСЕЕЎ
Алесь АСІПЕНКА
Мікола АЎРАМЧЫК
Алесь БАЖКО
Рыгор БАРАДУЛІН
Васіль БАРЫСЕНКА
Пятрусь БРОЎКА
Янка БРЫЛЬ
Дзмітры БУГАЁЎ
Генадзь БУРАЎКІН
Васіль БЫКАЎ
Алена ВАСІЛЕВІЧ
Васіль ВІТКА
Артур ВОЛЬСКІ
Анатоль ВЯЛЮГІН
Леанід ГАЎРЫЛКІН
Ніл ГІЛЕВІЧ
Анатоль ГРАЧАНІКАЎ
Сяргей ГРАХОЎСКІ
Іван ГРАМОВІЧ
Ілья ГУРСКІ
Павел ДЗЮБАЙЛА
Хведар ЖЫЧКА
Павел КАВАЛЁЎ
Віктар КАВАЛЕНКА
Янка КАЗЕКА
Міхась КАЛАЧЫНСКІ
Уладзімір КАРПАЎ
Кастусь КІРЭЕНКА
Уладзімір КОРБАН
Кандрат КРАПІВА
Аляксей КУЛАКОЎСКІ
Аркадзь КУЛЯШОЎ
Еўдакія ЛОСЬ
Максім ЛУЖАНІН
Міхась ЛЫНЬКОЎ
Андрэй МАКАЁНАК
Васіль МАТЭВУШАЎ
Янка МАЎР
Іван МЕЛЕЖ
Аляксандр МІРОНАЎ
Іван НАВУМЕНКА
Іван НОВІКАЎ
Пімен ПАНЧАНКА
Георгі ПАПОЎ
Пілін ПЕСТРАК
Леанід ПРОКША
Іван ПТАШНІКАЎ
Аляксей ПЫСІН
Аляксей РУСЕЦКІ
Раман САБАЛЕНКА
Алесь САВІЦКІ
Барыс САЧАНКА
Язэп СЕМЯЖОН
Янка СКРЫГАН
Максім ТАНК
Мікола ТКАЧОЎ
Тарас ХАДКЕВІЧ
Васіль ХОМЧАНКА
Іван ШАМЯКІН
Іван ЧЫГРЫНАЎ
Уладзімір ЮРЭВІЧ
Алесь ЯКІМОВІЧ

## РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ СП БЕЛАРУСІ, абраная на VI з'ездзе

Мікалай ГАРУЛЁЎ
Аляксей ЗАРЫЦКІ
Васіль ЗУЁНАК
Мікалай КРУГАВЫХ
Анатоль КУДРАВЕЦ
Мікола ЛОБАН
Пятрусь МАКАЛЬ
Адам МАЛЬДЗІС
Хаім МАЛЬЦІНСКІ
Браніслаў СПРЫНЧАН
Павел ТКАЧОЎ
Мікола ХВЕДАРОВІЧ
Уладзімір ШАХАВЕЦ
Станіслаў ШУШКЕВІЧ
Георгій ШЫЛОВІЧ

## ДЭЛЕГАТЫ V ЎСЕСАЮЗНАГА З'ЕЗДА ПІСЬМЕННІКАЎ СССР АД БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМЕННІЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Алесь АСІПЕНКА
Пятрусь БРОЎКА
Янка БРЫЛЬ
Васіль БЫКАЎ
Алена ВАСІЛЕВІЧ
Павел КАВАЛЁЎ
Міхась КАЛАЧЫНСКІ
Кастусь КІРЭЕНКА
Кандрат КРАПІВА
Аркадзь КУЛЯШОЎ
Аляксей КУЛАКОЎСКІ
Міхась ЛЫНЬКОЎ
Андрэй МАКАЁНАК
Іван МЕЛЕЖ
Іван НАВУМЕНКА
Пімен ПАНЧАНКА
Пілін ПЕСТРАК
Іван ПТАШНІКАЎ
Алесь САВІЦКІ
Максім ТАНК
Іван ШАМЯКІН

нашым асяроддзі прастакоў, якія, не разабраўшыся ў правакацыйнай тактыцы, свядома ці не свядома, сваімі непрадуманымі выступленнямі, заявамі і рознымі пісьмамі аказвалі варожай прапагандзе немалую паслугу. Пара зразумець ім, што іх блізарукасць з'яўляецца шкоднай для справы, за якую мы змагаемся, для справы, за якую народ заплаціў дарагой цаной крыві і жыцця сваіх лепшых сыноў.

Нам трэба больш пільна сачыць за інтрыгамі нашых непрыяцеляў і іх выкрываць. Паказваць іх фальш і хлусню, калі яны выступаюць у ролі салодзенькіх добразычліўцаў і ліберадаў, бо сёння досыць раскрыць любую газету, каб убачыць іх звярыны аскал, так добра знаёмы народам Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі; і тады, калі гэтыя езуіты выступаюць за так званую гуманізацыю нашай ідэалогіі, разлічваючы на яе размыў ці эрозію, намагаючыся вывесці нашу літаратуру з-пад уплыву партыі на бездарожжа ірацыяналізму; і тады, калі яны выступаюць у ролі прапагандыстаў наватарства, стараючыся збыць прастакам даўно заляжалае і аджыўшае свой час гніллё, і тады, калі гавораць, што літаратура і мастацтва заўсёды былі ў апазіцыі; і тады, калі яны выступаюць у ролі абаронцаў нацыянальнай адасобленасці, хоць вядома, што самі з'яўляюцца касмапалітамі, якія на мастацтве і пашпартах усіх людзей хацелі б бачыць толькі адну пячатку—эмблему долара; і тады, калі крычаць аб свабодзе крытыкі, каб потым, дзе можна, перайсці да забароны крытыкаваць іх.

Пад свабодай творчасці на Захадзе часцей за ўсё разумеецца свабода распаўсюджвання культу злачынства, парнаграфіі, гвалту, нажывы. Мы заўсёды выступалі і будзем выступаць супраць такой свабоды і патрабаваць ад літаратуры, каб яна адлюстроўвала не тое, што адурманьвае, атручвае душу, прыніжае чалавечую годнасць, а тое, што ўзбагачае яго ўнутраны свет, умацоўвае яго веру ў будучыню і выхоўвае ў будаўнікоў новага грамадскага ладу — камунізма — высокія маральныя якасці. Партыя вучыць нас пільнасці, якая ні на хвіліну не павінна нас пакідаць: «Дзеячы літаратуры і мастацтва—гаварыў т. Брэжнеў Л. І. ў дакладзе на XXIV з'ездзе КПСС,—знаходзяцца на адным з вострых участкаў ідэалагічнай барацьбы. Партыя і народ не мірыліся і не будуць мірыцца са спробамі — з якога б боку яны ні зыходзілі—прытупіць нашу ідэйную зброю, запляміць наш сцяг». І мы своечасова павінны рэагаваць на ўсе спробы ідэалагічнай дыверсіі, выкрываць яе і даваць ёй адпор не толькі ў сваіх крытычных і публіцыстычных творах. У літаратуры няма жанраў, якія б стаялі ў другім эшалоне ці ў баку ад гэтай барацьбы. Праўда, мы не павінны забываць, што барацьбу гэтую літаратура павінна весці сваімі сродкамі мастацтва, уздзеянні якіх найбольш дзейсныя і стабільныя.

ПЕРАХОДЗЯЧЫ да разгляду нашай творчасці, хацелася б зазначыць, што час, які прайшоў паміж з'ездамі і вымяраецца ўсяго пяццю гадамі, недастатковы для нейкіх канчатковых вывадаў і ацэнак не толькі здабытку ўсёй нашай літаратуры, але і творчасці паасобных пісьменнікаў. Бо мы знаем, якім складаным з'яўляецца творчы працэс, і знаем, што храналогія літаратуры рэдка калі супадае з каляндарнымі датамі нашых пленумаў і з'ездаў. І таму нельга год з'яўлення таго ці іншага твора лічыць найбольш плённым, а ўсе іншыя—гадамі неўраджайнымі. Амаль усё жыццё Я. Колас пісаў сваю «Палескую трылогію», з першых дзён вайны М. Лынькоў працаваў над сваёй эпапеяй «Векапомныя дні»; недзе яшчэ ў санацыйных казематах зарадзіліся і адкладваліся ў памяці П. Пестрака сцэны яго рамана «Сустрэнемся на барыкадах»; на далёкай чужыне, а потым у партызанскіх атрадах перад вачыма Я. Брыля ўставалі вобразы яго будучай аповесці «Птушкі і гнёзды»; па ўсіх ваенных шляхах-дарогах крочылі за І. Мележам героі яго раманаў «Мінскі напрамак» і «Палеская хроніка»... Гэта можна было б сказаць і пра многія іншыя творы нашых празаікаў, паэтаў, драматургаў, нават пра тыя творы, якія, нам здаецца, з'яўляюцца пад уплывам нейкіх раптам нахлынуўшых падзей,—яны раней з'яўляюцца ў тых пісьменнікаў, сэрцы якіх былі настроены на водгук гэтых падзей.

І таму да літаратурнага даробку апошніх год трэба залічыць не толькі напісаныя творы—хоць для многіх яны і з'яўляюцца найбольш пераканаўчым і ў нейкай меры статыстычным паказчыкам,—але і вышэйшы ідэйны мастацкі ўзровень, большую патрабавальнасць і няспынныя пошукі новых выяўленчых сродкаў—з'яву вельмі характэрную для ўсёй нашай сучаснай літаратуры. І калі мы гэта ўлічым, то ўбачым, што за апошнія гады адбыліся немалыя змены і зрухі ў нашай літаратуры, якія, безумоўна, акажуць свой уплыў і на далейшае яе развіццё. Няма патрэбы спрачацца, які жанр зараз у нас з'яўляецца дамінуючым. Празаікі—ці то па сціпласці, ці то па традыцыі—часта гэта першынства ўступаюць паэтам. Але трэба сказаць, што пасляваенныя, асабліва апошнія гады, былі гадамі буйнага росквіту нашай беларускай прозы. Аб гэтым пераканаўча гавораць шматлікія пераклады лепшых яе твораў на іншыя мовы і тая папулярнасць, якой яна карыстаецца сярод чытачоў.

Аглядаючы тое, што зроблена празаікамі за гэты час, мы павінны перш за ўсё адзначыць, што даследаванне жыцця народа нашай прозаю вялося шырокім фронтам.

Далейшае развіццё атрымала ў беларускай прозе тэма рэвалюцыйнай пераемнасці пакаленняў у барацьбе за лепшую будучыню; згуртаванасці народа вакол партыі ў барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады як улады, якая адпавядае самым глыбокім спадзяванням народа.

Рэвалюцыі і Кастрычніку прысвяцілі свае творы І. Гурскі—«Вецер веку», С. Грахоўскі—«Рудабельская рэспубліка», І. Мяла—«Раскол». Асабліва трэба адзначыць тут аповесць С. Грахоўскага, якая заваявала прыхільнасць у шырокага чытача і якая засведчыла, што ў беларускую прозу ўвайшоў яшчэ адзін таленавіты празаік.

«Асобае месца ў літаратурнай і мастацкай творчасці,—зазначыў у Справаздачным дакладзе ЦК КПСС тав. Л. І. Брэжнеў,—заняла ў справаздачны перыяд ленінская тэма. З'явіўся шэраг цікавых раманаў, п'ес, кінафільмаў пра Леніна, прасякнутых рэвалюцыйнай палымянасцю, пафасам вернасці ленінізму».

Новымі творамі прозы ўзбагацілася і беларуская Лемініяна. Беларускія пісьменнікі ў гэтыя гады з хваляваннем і натхненнем працавалі над тым, каб разам са сваімі таварышамі, якія працавалі ў іншых жанрах, разам з пісьменнікамі іншых рэспублік і краін увасобіць у мастацкіх творах рысы тытанічнага вобраза Ільіча, агульнымі намаганнямі вырашыць тую вялікую задачу, пра якую калісьці сказаў савецкі паэт: «века уж дорисуют, видно, недорисованный портрет».

Імкненнем дапоўніць, дамаляваць «ленінскі партрэт» адзначаны аповесці і апавяданні Івана Шамякіна («Лёс майго земляка», «Эшалон ў Германію», «Хлеб»), апавяданні Васіля Хомчанкі, кніга Паўла Ткачова «Штрыхі да партрэта».

З творамі пра рэвалюцыю і Леніна цесна звязаны творы, што расказваюць пра ліхое мінулае нашага народа, яго імкненне да барацьбы з сацыяльным і нацыянальным уціскам, яго нялёгкую, гераічную барацьбу. З гэтых твораў варта адзначыць аповесць аднаго са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Алеся Якімовіча «Канец сервітуту», трылогію Міхася Машары «Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі» і «Лукішкі».

Трылогія М. Машары з'яўляецца самай буйнай пасля эпапеі П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» спробай намаляваць драматызм становішча часткі нашага народа, гвалтоўна адарванага ад сацыялістычнай Радзімы, мужнасць і самаадданасць лепшых сыноў і дачок Заходняй Беларусі ў рэвалюцыйным змаганні з белапольскім уціскам.

Твор М. Машары не пазбаўлены недахопаў творчага плана, у ім адчуваецца нявопытнасць аўтара ў стварэнні вялікіх палотнаў: неабавязковыя эпізоды, кампазіцыйная рыхласць, нязладжанасць, схематызм некаторых вобразаў. Твор гэты, трэба спадзявацца, будзе падрабязна і ўсебакова разгледжаны нашай крытыкай, тут мы вымушаны абмежавацца адно агульнай ацэнкай трылогіі — твор М. Машары, на наш погляд, цікавая і ў цэлым, бясспрэчна, станоўчая з'ява ў нашай прозе.

Хацелася б адзначыць надзвычай цікавы раман Ул. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», у якім аўтару ўдалося ажывіць адну з рэвалюцыйных старонак гісторыі беларускага народа.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...



К. Крапіва і А. Асіпенка

У гэтыя гады ў нашай прозе ішла далейшая распрацоўка таго гістарычнага перыяду ў жыцці народа, які адзначаны станаўленнем, узмацненнем новых, савецкіх адносін між людзей, узмацненнем новай, савецкай маралі, фарміраваннем савецкага чалавека. З твораў гэтага раду трэба найперш адзначыць апавяданні Я. Скрыгана, П. Броўкі, цыкл з чатырох аповесцей Алены Васілевіч і другі раман Міколы Лобана «Гарадок Устронь». Аповесці Алены Васілевіч—«Расці, Ганька», «Доля цябе знойдзе», «Новы свет», «Пачакай, затрымайся»—вынік шматгадовай працы таленавітага празаіка. Знешне вельмі простыя па форме і па жыццёвым матэрыяле аповесці Алены Васілевіч радуюць шчырасцю, хараством маладых герояў, якія глядзяць на свет чыстымі, поўнымі надзей вачыма. Непасрэднасць, шчырасць, тэмпераментнасць у паказе жыцця і людзей—моцныя якасці тэтралогіі пісьменніцы.

Сур'ёзны, праўдзівы твор напісаў Мікола Лобан—раман «Гарадок Устронь». Гэты твор, бясспрэчна, з'яўляецца поспехам пісьменніка, новым яго крокам пасля першага вядомага рамана «На парозе будучыні». Поспех пісьменніка тым больш варта адзначыць, што ў аснову твора пакладзены складаныя калізіі сярэдзіны 30-х гадоў. М. Лобану ўдалося намаляваць некалькі жывых, складаных па сваёй сацыяльнай і псіхалагічнай сутнасці вобразаў, сярод якіх асаблівай ухвалы заслугоўвае вобраз камуніста-ленінца Андрэя Шэмета. Не зважаючы на асобныя недахопы—недастатковая кампазіцыйная арганізаванасць, эскізнасць некаторых вобразаў—раман М. Лобана трэба прызнаць прыкметным здабыткам нашай прозы апошняга часу.

Як і ў мінулыя гады тэма Вялікай Айчыннай вайны была і застаецца адной з асноўных тэм нашай прозы. Мы лічым такую цікавасць многіх пісьменнікаў рэспублікі да тэмы вайны зусім натуральнай: як ні багата напісана пра вайну, невычэрпная гэта тэма па праве займае вядучае месца ў літаратуры народа, які аддаў справе перамогі над фашызмам кожнага чацвёртага чалавека і які паказаў усяму свету ўзор гераізму і савецкага патрыятызму. Гераізм чалавека на вайне, вытокі гераізму і савецкага патрыятызму, іх моцы—праблемы, якія найбольш хвалююць аўтараў твораў пра Вялікую Айчынную вайну.

«Вецер у соснах» Івана Навуменкі, «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, «Сотнікаў» Васіля Быкава, «Тартак» Івана Пташнікава, «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя» Б. Сачанкі, «Па другой зіме вайны», «Іскры ў папялішчах» Лідзіі Арабей, «Туман над стэпам» Рыгора Няхая, творы М. Аляксеева, А. Марціновіча, М. Кругавых, Г. Бу-

# VI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

раўкіна, В. Хомчанкі, Е. Лось, А. Ставера, А. Алешкі, М. Капыловіча і многіх іншых напоўнілі мастацкі летапіс Айчыннай вайны, які робяць беларускія пісьменнікі.

Аповесць Барыса Сачанкі «Апошнія і першыя» — своеасаблівы рэквіем, працяты глыбокім смуткам аб трагічнай гібелі людзей ад рук фашысцкіх забойцаў і высокай турботай аб міры на зямлі. Трагедыю палескай вёскі Рудня, спаленай фашыстамі, Барыс Сачанка змог перадаць як трагедыю ўсяго народа, над якім навісла пагроза вынішчэння ўзброенымі да зубоў людаедамі XX стагоддзя. Убачаная вачыма ўцалелага выпадкова хлопчыка Ясіка трагедыя вёскі Рудня не толькі хвалюе, але і выклікае ў сэрцы чытача моцны пратэст супраць бесчалавечнасці, фашызму, гучыць актуальна, як абвінавачванне навяўленым усмірыцелям свабодалюбівых народаў свету, тым, хто ўчыніў смерць жыхарам Сонгмі, хто сее вайну над палямі і вёскамі Лаоса і Камбоджы.

Суровая і мужная аповесць І. Пташнікава «Тартак» узнімае тую ж тэму, што і аповесць Сачанкі. Трагедыя Дальвы, спаленай уласаўцамі летам 1943 года, падобна да трагедыі Рудні. Аповесць І. Пташнікава напісана рукой сталага мастака-рэаліста, знешне быццам стрыманая, яна хвалюе яркасцю бачання, выразнасцю дэталей, мужнай праўдзівасцю, жывымі вобразамі людзей. «Тартак» — яшчэ адна і вельмі праўдзівая старонка ў ваенным летапісе нашага народа.

Асобна трэба адзначыць поспех Івана Чыгрынава, які сваім першым раманам «Плач перапёлкі» заявіў пра сябе як пра здольнага, шматабяцаючага раманіста. Праўдзівую, шырокую, багатую фарбамі карціну незабыўнага лета 1941 года намаляваў І. Чыгрынаў у сваім рамане. Раман паказвае наш народ у цяжкую пару, калі Чырвоная Армія адступае пад націскам нямецка-фашысцкіх войск, калі ў беларускія вёскі ўрываецца вораг, але раман не пакідае ўражання безнадзейнасці. Чыгрынаў здолеў паказаць, як ужо ў той час, у пачатку вайны, у нашага народа жыла непахісная вера ў сілу савецкага ладу, адданасць Савецкай уладзе, як у ліхалецці першых месяцаў вайны, у асяроддзі ўчарашніх мірных людзей гартуюцца героі партызанскай барацьбы. Аўтар намаляваў жывыя вобразы байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, калгаснікаў, партыйных работнікаў, паказаў уменне ствараць аб'ёмныя вобразы людзей. У гэтых адносінах як асаблівую ўдачу трэба адзначыць вобразы Зазыбы і Чубара, вобразы тыповых і разам з тым па-сапраўднаму адметных, жывых прадстаўнікоў народа.

Раман «Вецер у соснах» Івана Навуменкі з'явіўся як працяг эпічнага апавядання, пачатага кнігай «Сасна пры дарозе». Новы раман І. Навуменкі выклікаў супярэчлівыя водгукі. Трэба, аднак, сказаць, што пры пэўных выдатках раман «Вецер у соснах», бясспрэчна, твор значнай мастацкай вартасці. Аўтару ўдалося развіць і ўзбагаціць новымі рысамі вобраз Міці Птахі, галоўны вобраз дылогіі, які стаў адным з лепшых у творчасці І. Навуменкі. Моцнай якасцю рамана І. Навуменкі з'яўляецца праўдзівасць, яркасць карцін партызанскага жыцця, умелая, поўная руху, напружанасці падача батальных сцэн. Аўтар з веданнем і ўмельствам паказвае партызан у баявой дзейнасці, выяўляючы глыбокае разуменне чалавечай псіхалогіі ў складаных акалічнасцях гэтай дзейнасці.

З трыма новымі аповесцямі за час між з'ездаў выступіў Васіль Быкаў. Усе яны прысвечаны мінулай вайне. Як і ў папярэдніх творах, у гэтых аповесцях Быкава цікавяць людзі ў вострых, драматычных, а часта і трагічных сітуацыях.

Быкаў — пісьменнік ярка выражанай творчай індывідуальнасці. Яго стыль ва ўсіх творах быў і застаўся адзін — вельмі напружанае, эмацыянальна-насычанае апавяданне аб выключным, на мяжы між жыццём і смерцю, моманце ў жыцці героя. Усе творы Быкава вызначаюцца на рэдкасць устойлівым стылявым адзінствам.

Не ўсё ўдалося В. Быкаву ў апошніх аповесцях. Відаць, многія з крытычных закідаў па аповесцях «Праклятая вышыня» і «Круглянскі мост» былі слушныя. Тым больш радасна адзначыць, што апошняя аповесць Быкава — «Сотнікаў» — атрымала станоўчую ацэнку ва ўсесаюзных літаратурных выданнях.

Але, прызнаючы справядлівасць паасобных крытычных закідаў у адрас Быкава, мы разам з тым не можам не адзначыць, што ў той крытыцы, якая ішла ў адрас пісьменніка, былі і такія абвінавачванні, з якімі прафесіянальным літаратарам згадзіцца цяжка.

Творы В. Быкава, у прыватнасці, і апошнія аповесці, як правіла, носяць лакальны характар, у аснове кожнай з іх стаіць тая ці іншая канкрэтная праблема. У аповесці «Круглянскі мост», напрыклад, гэта праблема: якія сродкі дазволены для дасягнення мэты? Брытвін лічыць, што для дасягнення мэты дазволены любыя сродкі, і ў дасягненні яе не спыняецца перад подласцю. Усім ладам твора, са сваім юным героем, В. Быкаў гнеўна асуджае філасофію Брытвіна, як несумяшчальную з партызанскай мараллю. Гэты пункт гледжання ніяк не разыходзіцца з тым, якога прытрымліваліся народныя мсціўцы.

Вырашаючы канкрэтную праблему, В. Быкаў сваім невялікім творам не мог і не ставіў сабе на мэце даць усёабдымную карціну народнай партызанскай барацьбы, патрабаваць гэтага ад яго твора, думаецца, несправядліва.

Адзначаючы гэта, мы зусім не хочам сказаць, што творы В. Быкава няма за што крытыкаваць, мы гэтым хочам падкрэсліць неабходнасць аб'ектыўнай і таварыскай крытыкі. Мы хочам адзначыць, што ў творчасці В. Быкава адбываюцца з'явы, якія даюць падставы чакаць новых добрых твораў ад гэтага таленавітага празаіка.

Завяршаючы агляд твораў аб Вялікай Айчыннай вайне, трэба адзначыць, як станоўчы факт, далейшае развіццё той яе галіны, якая бярэ пачатак у дакументальнай аснове, — пра гэта сведчыць з'яўленне аповесцей Г. Бураўкіна, І. Новікава, А. Ус і А. Уладзіміравай.

Плённа развівалася ў гэты час і мемуарная літаратура, якая папоўнілася змястоўнымі кнігамі вядомых партызанскіх кіраўнікоў Р. Мачульскага, І. Клімава, Н. Гракава, І. Ветрава, М. Джагарава і іншых.

Як вядома, у напісанні твораў мемуарнага жанру вялікую дапамогу аўтарам аказваюць пісьменнікі, у прыватнасці такія, як А. Кулакоўскі, Р. Няхай, А. Міронаў, В. Бурносаў і інш. Праўда, тут ёсць адна небяспека: літаратурная апрацоўка адным і тым жа пісьменнікам некалькіх кніг успамінаў прыводзіць да стылявой аднастайнасці. Варта адзначыць таксама з'яўленне калектыўных зборнікаў мемуарнага характару — «Путь к победе» (сааўтар М. Аляксееў), «Сквозь огонь и смерть» (складальнік У. Карпаў) і іншыя.

Вялікая частка твораў беларускай прозы адлюстроўвае пасляваенную мірную працу нашага народа, працоўны гераізм калгаснага сялянства, рабочага класа, праблемы жыцця савецкай інтэлігенцыі, нашай моладзі. У многіх з гэтых твораў ставяцца актуальныя пытанні сённяшняга жыцця. З кожным годам гэтыя творы аб сучаснасці займаюць усё большае месца ў творчым даробку нашай прозы.

«Жыта» А. Асіпенкі, «Расце мята пад акном» і апавяданні А. Кулакоўскага, «Снежныя зімы» І. Шамякіна, «Сотая маладосць» Ул. Карпава, «Мсціжы» І. Пташнікава, «Апошні водпуск» А. Адамовіча, «Адзін лапаць, адзін чунь» М. Стральцова, «Чазенія» У. Караткевіча, «Зноў у Будневе» А. Кудраўца, «Отдаешь навсегда» М. Герчыка, «Мае заводчыкі» В. Мысліўца, «Далі сабе слова» І. Грамовіча, «Палын — зелле горкае», «Самы высокі паверх» і «Сталявары» А. Савіцкага, «Падзенне Хвядоса Струка» П. Кавалёва, «Лора», «Трэці не лішні» Р. Сабаленкі, «Летняя знічка» Л. Гаўрылкіна, «Где не ждут тишины» М. Кругавых, апавяданні В. Віткі, Я. Васілёнка, Ул. Дамашэвіча, М. Ракітнага, І. Навуменкі, Т. Хадкевіча, В. Адамчыка, В. Карамазава, В. Хомчанкі, А. Кандрусевіча, А. Пінчука і нямала іншых твораў — усё гэта творы, звязаныя з днём сённяшнім.

Варта адзначыць і лірычныя нататкі Я. Брыля, работу над якімі працягвае аўтар ужо некалькі год. Тэматыка і праблемы гэтых твораў вельмі разнастайныя.

Існуе думка, што беларускія пісьменнікі пішуць ледзь не выключна пра вёску. Але варта прыгледзецца ўжо да названых твораў, каб пераканацца, што думка гэта не зусім адпавядае сапраўднасці. Праблемы жыцця вёскі толькі ў цэнтры некаторых з адзначаных твораў («Жыта» А. Асіпенкі, «Зноў у Будневе» А. Кудраўца, часткова ў раманах «Мсціжы» І. Пташнікава, «Снежныя зімы» І. Шамякіна і некаторых іншых). Нямала твораў напісана пра горад, але большасць з іх узнімаюць праблемы, якія маюць месца ў асяроддзі інтэлігенцыі. На вялікі жаль, пра рабочы клас мы ўсё яшчэ пішам мала.

Творы П. Кавалёва «Падзенне Хвядоса Струка» і І. Гурскага «Чужы хлеб» накіраваны супраць варожай дзейнасці беларускіх буржуазных нацыяналістаў, агентаў ЦРУ, наёмных служак Пентагона.

Ёсць у нас прыкметныя поспехі і ў развіцці публіцыстыкі, у тым ліку публіцыстыкі на міжнародныя тэмы. Тут варта адзначыць публіцыстычныя выступленні К. Кірэенкі, А. Бажко, А. Карпюка, Л. Прокшы, у якіх аўтары сродкамі вострага мастацкага слова вядуць барацьбу з буржуазнай ідэалогіяй з новаяўленымі амерыканскімі прэтэндэнтамі на сусветнае панаванне. На старонках газет і часопісаў публікаваліся таксама нарысы і публіцыстычныя артыкулы, прысвечаныя праблемам нашага савецкага жыцця — В. Палтаран, Я. Сіпакова, І. Дуброўскага, А. Карпюка, А. Вярцінскага, Т. Хадкевіча, А. Бялевіча, М. Паслядовіча, В. Панамарова, А. Кулакоўскага, Ул. Юрэвіча, А. Адамовіча, Ул. Мяжэвіча, Ул. Караткевіча і інш.

**У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...**



**У. Караткевіч і В. Быкаў**

Як бачым, нашымі празаікамі нямала напісана твораў аб сённяшнім дні. Можам са здавальненнем адзначыць таксама тое, што сярод гэтых твораў ёсць нямала такіх, якія заслугоўваюць добрай ацэнкі і з'яўляюцца дасягненнем нашай літаратуры. Няма магчымасці падрабязна прааналізаваць усе творы прозы на гэту тэму, але мы хацелі б адзначыць хоць бы некаторыя з іх. Мужнай праўдзівасцю вызначаецца, напрыклад, аповесць «Жыта», у якой А. Асіпенку ўдалося стварыць суровы, характэрны малюнак пасляваеннага станаўлення разбуранай вайной беларускай вёскі. Да заслугі А. Асіпенкі трэба аднесці і стварэнне моцнага і цэльнага характару ўчарашняга франтавіка, цяперашняга старшыні калгаса Язэпа Каліны.

Праўдзівасцю, жывымі вобразамі прываблівае таксама новы раман І. Пташнікава «Мсціжы». Бясспрэчнай удачай І. Пташнікава з'яўляецца вобраз галоўнага героя рамана — конюха леспрамгаса Андрэя Вялічкі, былога партызана, чалавека нялёгкага лёсу, харавство якога пераканаўча раскрыта ў пераадоленні выпрабаванняў вайны і пасляваеннай мірнай працы. Удалося І. Пташнікаву стварыць і іншыя жывыя характары — рабочага леспрамгаса Рамана, начальніка ўчастка Унука, калгасніцы Балюты. Радуе раман шчодрым жывапісам, багаццем дэталей. Разам з тым, аўтара варта папракнуць і за некаторую перагружанасць апісаннямі, за замаруджанасць дзеяння, некаторую прыглушанасць сацыяльнага фону.

Цікавай з'явай нашай прозы варта назваць аповесць А. Адамовіча «Апошні водпуск», надрукаваную ў часопісе «Дружба народов».

З новым раманам «Снежныя зімы» выступіў у гэты перыяд І. Шамякін. У цэнтры рамана І. Шамякіна, які выклікаў вялікую цікавасць у чытачоў, — вобраз былога партызанскага камандзіра, пазней — кіраўніка высокага ўзроўню Івана Антанюка. І. Шамякін паказвае свайго героя ў драматычны момант жыцця, тады, калі яго, несправядліва абвінавацілі ў рэтраградстве, адхіляюць ад работы і адпраўляюць на пенсію. Выбраўшы ў жыцці героя такі перыяд, калі ён аказаўся на «адпачынку», аўтар, раскрываючы героя, шырока карыстаецца метадам рэтраспекцыі: жыццё героя выяўляецца ў большай ступені яго ўспамінамі. Па гэтай прычыне побач з дзеяннем сённяшнім у рамане ўвесь час развіваецца, рухаецца лінія мінулага героя — яго партызанскай дзейнасці, напісанай вельмі ярка, узрушана. Аўтар імкнецца ўсебакова раскрыць свайго героя: у той частцы, дзе падаецца яго сённяшняе жыццё, мы бачым яго ва ўзаемадачыненнях з сям'ёю, з таварышамі па нядаўняй працы і сябрамі па партызанскім мінулым. Шырока раскрывае І. Шамякін свет дум свайго героя, паказваючы яго погляды на многія з'явы сучаснасці.

І. Шамякіну ўдалося рашыць складаную задачу стварэння буйнага вобраза, больш глыбока пранікнуць у свет яго пачуццяў і думак.

Важным праблемам пасляваеннага жыцця прысвечаны раман У. Карпава «Сотая маладосць», у якім аўтар малюе разнастайнае, шматфарбнае жыццё сучаснага горада. Варта ўхвалы імкненне У. Карпава ставіць надзённыя праблемы сучаснага гарадскога жыцця — праблемы вытворчыя і інтэлектуальныя, яго імкненне даследаваць жыццё нашай сённяшняй інтэлігенцыі.

У гэтым жа напрамку настойліва працуе А. Савіцкі, аўтар твораў аб рабочых людзях — «Самы высокі паверх» і «Сталявары». Аповесць «Сталявары», пабудаваная на дакументальным матэрыяле, расказвае пра жыццёвы шлях аднаго са слаўных нашых сучаснікаў сталявара Дзмітрыя Барашкіна, чалавека, які рос разам са сваім заводам, сваім горадам і часам. Пісьменніку лепш удаліся раздзелы, прысвечаныя юнацтву героя; у паказе заводскага жыцця ў аповесці ёсць элементы апісальнасці, але кірунак пошукаў аўтара, які распрацоўвае важную тэму, заслугоўвае падтрымкі.

З твораў аб рабочых варта таксама адзначыць кнігу «Мае заводчыкі» В. Мысліўца, якая прываблівае нядрэнным веданнем рабочага жыцця. Але ў кнізе яшчэ адчуваецца нявопытнасць аўтара, а можа і паспешлівасць, якая шкодзіць многім яго творам.

Трэба адзначыць значны рост, як празаіка, У. Паўлава, аўтара некалькіх цікавых апавяданняў і аповесцей аб сучаснасці, і А. Кудраўца, які апублікаваў нямала апавяданняў і шчырую, маляўнічую аповесць «Зноў у Будневе». З цікавымі апавяданнямі выступіў А. Наўроцкі.

Сур'ёзным, удумлівым поглядам на жыццё сучаснай арміі вызначаецца аповесць рускага празаіка А. Кузьмічова «Смена караулов».

У гэтым напрамку нямала зрабіў Мікалай Кругавых, які ўслед за раней апублікаваным раманам «Честь ярма не приемлет» надрукаваў новую цікавую кнігу пра савецкіх воінаў «Где не ждут тишины».

За час між з'ездаў на старонках нашых газет і часопісаў і ва ўсесаюзным друку нашымі аўтарамі было апублікавана многа дакументальных нарысаў і выступленняў па розных пытаннях унутранага і міжнароднага жыцця.

З твораў нарыснай літаратуры пра наша жыццё асаблівы поспех выпаў на долю В. Палтаран, аўтара двух паэтычных кніжак «Ключы ад сезама» і «Дзівасіл», якія заслужана атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР імя Ляпяшынскага. Сур'ёзным роздумам адзначаны і новы нарыс І. Дуброўскага «Да долі чалавечай». Добра заявіў пра сябе як пра тонкага назіральнага мастака Я. Сіпакоў, што парадаваў нас таленавітымі творамі «Акно, расчыненае ў зіму» і «Па зялёную маланку». Як удачу трэба ацаніць кнігу В. Панамарова, прысвечаную слаўнаму калгаснаму дзеячу К. П. Арлоўскаму. Трэба адзначыць змястоўныя, страсныя нататкі «Тры месяцы ў Амерыцы» К. Кірэенкі, якія з'явіліся ў выніку яго паездкі ў ЗША ў якасці дэлегата Беларускай ССР на сесію ААН. Твор К. Кірэенкі прасякнут ваяўнічай непрымірымасцю пісьменніка-камуніста да фальшу буржуазнага свету, бесчалавечнай існасці імперыялізму. Значна пашыраюць межы даследавання свету, які вядзе наша дакументалістыка, нарысы Я. Брыля «Душа — не падарожніца», «Рэха заўсёды са мной» і іншыя, якія набліжаюць да нас кло-

паты блізкіх і далёкіх народаў, сведчаць аб міралюбівых настроях нашага народа, яго жаданні жыць у міры і дружбе.

Тут хацелася б сказаць пару добрых слоў і пра нашу сатырычную літаратуру, якая працягвае развіваць лепшыя традыцыі, асабліва ярка ўвасобленыя ў творчасці Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, К. Чорнага. Найбольш плённа працавалі ў гэтым жанры Ул. Корбан, Э. Валасевіч, І. Грамовіч, Г. Кляўко, Н. Гілевіч, М. Скрыпка, цэлая плеяда дасціпных сатырыкаў і гумарыстаў, што групуюцца вакол часопіса «Вожык». Вялікую папулярнасць заваявала «Бібліятэчка «Вожыка», кніжкі якой ніколі не залежваюцца на паліцах.

Вельмі радаснай і значнай з'явай за час між з'ездаў трэба лічыць прыход у літаратуру і рост шэрагу цікавых, здольных празаікаў. Хораша выявілі сябе Міхась Вышынскі, Віктар Карамазаў, Аркадзь Кандрусевіч, Леанід Калодзежны, Алесь Крыга, Алесь Жук, Алесь Масарэнка, Алесь Рыбак, Ніна Маеўская, Клаўдзія Каліна, Мікола Гіль і іншыя. Іх творчасць сведчыць, што ў беларускую літаратуру ідзе папаўненне, на якое мы можам ускладваць добрыя надзеі. Неабходна толькі папярэдзіць маладых пісьменнікаў, што поспех іх далейшай працы будзе залежыць ад таго, наколькі глыбокім і свежым будзе іх веданне жыцця, нашага часу, наколькі патрабавальнымі яны будуць да сябе, да сваіх твораў.

Адзначаючы як станоўчы факт тое, што ў перыяд між з'ездамі нямала напісана твораў прозы пра працоўны гераізм нашага народа, што ў гэтых творах пастаўлены надзённыя праблемы, мы ні ў якім разе не можам задаволіцца зробленым. Трэба адкрыта сказаць, што твораў гэтых пакуль усё ж недастаткова, што ў нашай прозе пакуль не знайшлі належнага адбітку многія і надзвычай важныя справы з жыцця нашага народа.

На XXVII з'ездзе КПБ П. М. Машэраў у справаздачным дакладзе ЦК вельмі справядліва сказаў: «На жаль, нашы пісьменнікі яшчэ не стварылі буйных яркіх твораў, у якіх бы праблемы заводскага калектыву і асобы рабочага атрымалі глыбокае і ўсебаковае адлюстраванне».

Мы не маем глыбокіх твораў, у якіх бы дзейнічалі вобразы, роўныя і родныя тым слаўным нашым сучаснікам, якія будуюць сусветна вядомыя МАЗы і БелАЗы, якія ў глыбінях беларускіх нетраў здабываюць скарбы зямлі, якія пабудавалі Наваполацкі нафтаперапрацоўчы камбінат і будуюць Мазырскі. Мы не маем глыбокіх твораў аб тых людзях, якія сёння, на сённяшнім узроўні тэхнікі, эканомікі, культуры, у сённяшняй вёсцы рашаюць не простыя праблемы сельскай гаспадаркі.

Мала твораў пра тую важнейшую частку народа, імя якой народная, савецкая інтэлігенцыя. Аб чым думае, аб чым марыць, як жыве сённяшні інтэлігент—настаўнік, урач, студэнт-лірык і вучоны-фізік—мы яшчэ не здолелі сказаць нашаму чытачу.

Мусім самакрытычна сказаць і пра тое, што як надзённая, невырашаная застаецца пакуль задача стварэння вобраза партыйнага работніка нашых дзён—арганізатара мас, кіраўніка вытворчасці, чалавека сучаснай культуры, які ў сучасных умовах небывалай тэхнічнай рэвалюцыі, небывалага росту ўсіх галін гаспадаркі і народнага жыцця робіць справу асаблівай складанасці і асаблівай важнасці.

Але, калі мы можам прад'явіць сабе прэтэнзіі да—калі можна так сказаць—колькаснага даследавання жыцця, то яшчэ больш актуальнай з'яўляецца задача якаснага ўздыму нашай прозы.

Трэба помніць, што твор мастацкай літаратуры толькі тады можа выканаць сваю ролю, усхваляваць і ўзбагаціць чытачоў, калі ідэя яго знаходзіць вартае мастацкае выкананне, калі твор гэты высокі па майстэрстве. Партыйнасць і народнасць—як асноўныя крытэрыі вартасці твора—толькі тады праяўляюцца з належнай сілай, калі яны ў творы мастацтва выказаны з належнай мастацкай якасцю, з належнай мастацкай глыбінёй.

На жаль, мы павінны прызнацца, што нямногія яшчэ творы прозы, у прыватнасці творы пра сучаснасць, вызначаюцца высокім узроўнем майстэрства. Не багата яшчэ твораў, якія б даследавалі нашу сучаснасць глыбока, давалі б цікавыя, жывыя назіранні, шырокія абагульненні, стваралі б значныя мастацкія вобразы.

«Часам бывае нават,—гаварыў Л. І. Брэжнеў, — што твор прысвечан добрай, актуальнай тэме, але ствараецца ўражанне, што мастак падышоў да сваёй задачы вельмі лёгка, не ўклаў у сваю працу ўсю сілу свайго таленту».

Трэба з усёй вастрынёй сказаць, што галоўная прычына такога становішча часцей за ўсё не ў недахопе фармальнага майстэрства, хоць і гэта часам адчуваецца,—а ў недахопе жывых назіранняў над жыццём, непасрэдных уражанняў. Іменна гэтым недахопам жыццёвых назіранняў, на нашу думку, тлумачыцца тое, што ў цэнтр твораў рэдка ставяцца глыбокія праблемы сённяшняга дня, што яны яшчэ нярэдка падменьваюцца знаёмымі схемамі: наватар—кансерватар, сумленны—несумленны, што сур'ёзныя праблемы жыцця падменьваюцца меладраматычнымі выдумкамі літаратурнага паходжання.

Відаць, немалая віна гэтага ў тым, што мы многа сядзім у рэдакцыях, у кабінетах, многа трацім часу на патрэбныя і непатрэбныя пасяджэнні і нарады, і мала бываем на заводах і ў калгасах. Мала жывём сярод народных клопатаў. Гэта — простая і не новая ісціна, але гэта—ісціна, і мы павінны паставіцца да яе з належнай увагай і павагай. Жыццё на нашых вачах змяняецца так хутка, бурліва, што кожны, хто хоча ўгнацца за ім, хто хоча стварыць сапраўды актуальны твор, павінен быць у яго гушчыні, і не камандзіровачным, не гастралёрам, а штодзённым удзельнікам.

Толькі на гэтай дарозе мы можам спадзявацца на сапраўдныя творчыя перамогі.

У сувязі з гэтым мы павінны паставіць пытанне: ці правільна скарыстоўваем мы тое багацце, якое ёсць у нашых таварышаў—талент, ці не лішне лёгка мы растрачваем гэтае багацце, якое абавязвае нас даваць народу самае каштоўнае, што мы можам даць—высокамастацкія творы? Ці не пара падумаць і стварыць такія ўмовы, пры якіх сілы нашы, наша жыццё былі б скіраваны цалкам на асноўнае—на стварэнне глыбокіх мастацкіх твораў, як самы важны від грамадскага служэння нашаму народу, нашай партыі.

**У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...**



Ю. Голуб, Ж. Янішчыц, П. Броўка і Р. Семашкевіч.

ПАЭЗІЮ называюць гарачым цэхам, маючы, відаць, на ўвазе такія яе якасці, як вострая ўспрымальнасць, эмацыянальная напоўненасць, высокая экспрэсіўнасць. Так, паэтычны цэх — цэх высокіх тэмператур. У паэзіі не самае галоўнае — лагічна ці ў нейкім новым, нечаканым спалучэнні паставіць словы. Важна, каб паміж імі, як паміж электрычнымі батарэямі, прабягаў ток мыслі, ток эмоцый, пачуццяў. Іншымі словамі, верш заклікаены чуйна перадаваць пульс жыцця, пульс чалавечага сэрца, несці ў сабе праметэеўскі агонь грамадзянскасці. У гэтым, як мы бачым, і асаблівасць паэзіі, і яе прызначэнне. Да слова сказаць, мы не падзяляем трывогу некаторых нашых калег з суседняй Польшчы, якія лічаць, што паэзія сваё аджыла, што яна адмірае і г. д. (Мы маем на ўвазе тут дыскусію, што адбылася нядаўна ў сувязі з артыкулам Т. Ружэвіча ў польскім літаратурным друку і была прысвечана становішчу ў польскай паэзіі). Хіба што аджывае тая паэзія, якая не звязана з жыццём, якая нічога не выказвае, не нясе ў сабе ніякага грамадскага зместу, так сказаць, паэзія аб нічым. Але ж гэта іншая справа. Калі верш аб нічым, тады яму і сапраўды нічога не застаецца, як адысці «ў свет ценяў». Мы ж лічым, што ў паэзіі той жа сэнс, што і ў самога жыцця, і калі ёсць сэнс у жыцці, то ён ёсць і ў паэзіі. І калі яна, паэзія, ідзе ў нагу з жыццём, калі яна імкнецца памагаць людзям, служыць свайму народу, тады ёй няма чаго турбавацца за свой лёс. Тут прыгадваецца верш Петруся Броўкі «З глыбінь грудзей», змешчаны ў кнізе «Між чырвоных рабін»:

**Няхай трывожна, хай не спіцца,**
**Пакуль як след не запяеш...**
**З глыбінных вод імкнуць крыніцы,**
**З глыбінь грудзей і добры верш.**

**Спявай старанна і цярпліва,**
**І прыйдзе добры ён, дарма!**
**Прырода толькі творыць дзівы,**
**Бо дзівам ёсць — яна сама.**

**Табе ж пазнаць і радасць можна,**
**Калі твой верш сяброў здабыў,**
**Калі адчуе ледзь не кожны,**
**Што быццам сам яго стварыў.**

Цяжка тут не пагадзіцца з паэтам. Сапраўды, добры верш можа з'явіцца толькі з глыбінь жыцця, «з глыбінь грудзей». І сапраўды, толькі такі, толькі народжаны такім чынам твор можа дайсці да другога сэрца, знайсці сяброў, выклікаць у людзей адчуванне сааўтарства. І сапраўды, толькі ў такім разе паэт можа ўздыхнуць з палёгкай, пазнаць радасць — радасць патрэбнай людзям творчасці.

З прыемнасцю адзначым, забягаючы крыху наперад, што наш паэтычны цэх працаваў «старанна і цярпліва», працаваў у цеснай сувязі з жыццём, з сучаснасцю. Гучалі розныя па сваёй сіле і танальнасці галасы — ад паэтычнай дэкламацыі да сцішанага шэпту, — і гэта было натуральна, бо наша паэзія цікавілася ўсім: ад спраў надзённых да падзей гістарычных. Нішто не застаецца па-за яе ўвагай: мінулае і сённяшняе, далёкае і блізкае, зямное і касмічнае, асабістае і агульначалавечае, — усё ў яе арбіце.

Гэта — некалькі агульных заўваг.

Спынімся больш падрабязна на некаторых, больш істотных момантах у развіцці нашай паэзіі другой паловы 60-х гадоў.

Адна з тых асаблівасцей, якая дае падставу называць паэзію гарачым цэхам, — гэта яе грамадзянскасць, яе страсная зацікаўленасць у жыцці і справах народа. Апошнія гады і былі якраз часам інтэнсіўнага грамадзянскага сталення нашай паэзіі.

Адпаведная грамадска-палітычная атмасфера паслужыла моцным стымулам у павароце паэзіі, як лірычнай, так і эпічнай, да гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы і ў асаблівасці да тэмы ленінскай. Яно і зразумела. Ленінская тэма — адна з самых велічных і хвалюючых для сэрца мастака — даўно стала традыцыйнай у беларускай савецкай паэзіі. І — дадам — адной з самых плённых яе тэм. Бо пісаць пра Леніна — гэта паэтызаваць не толькі вобраз генія, жыццё, барацьбу і дзейнасць правадыра, але і ўсё, што заснавана на яго вучэнні, пранізана і асветлена яго розумам.

Даволі багатая наша паэтычная Ленініяна папоўнілася за апошні час новымі творамі. Даніну любві і павагі аддалі правадыру ў сваіх вершах П. Броўка, П. Панчанка, М. Лужанін, С. Дзяргай, М. Хведаровіч, С. Шушкевіч, А. Звонак, А. Зарыцкі, С. Грахоўскі, А. Русецкі, К. Кірэенка, Э. Агняцвет, А. Бялевіч, А. Бачыла, А. Вялюгін, Г. Бураўкін, Н. Гілевіч, П. Макаль, Е. Лось, Я. Сіпакоў, А. Грачанікаў, Ю. Свірка, В. Макарэвіч. І справа тут, вядома, не столькі ў колькасным папаўненні, колькі ў якасных зрухах, у далейшым паглыбленні ў ленінскую тэму. У лепшых творах, прысвечаных гэтай тэме, няма, можа быць, стаўшых звычнымі агульных мясцін і шматлікіх клічнікаў, затое ў іх ёсць роздум, ёсць грамадзянскі клопат, ёсць шчырае, сапраўднае імкненне па-ленінску жыць і будаваць жыццё. Напрыклад, прыкметнай з'явай, і не толькі ў беларускай Ленініяне, з'яўляецца паэма Анатоля Вялюгіна «Вецер з Волгі», у якой выразна гучыць ленінскі жыццёвы ідэал і якая выйшла нядаўна поўнасцю ў нашым выдавецтве. Свежае ўвасабленне атрымала ленінская тэма, у прыватнасці, у творах самых маладых нашых паэтаў — Леаніда Дайнекі, Алеся Разанава, Уладзіміра Скарынкіна.

Гаворачы пра зварот нашай паэзіі да ленінскай тэмы, не магу не адзначыць і выдатныя пераклады Р. Барадуліна і М. Калачынскага рэвалюцыйных песень, якія любіў Ленін.

Неаддзельная ад ленінскай — тэма рэвалюцыі, партыі, народа, тэма змагання за новы лад, новае жыццё, новага чалавека. І як бы, зноў-такі, ні адрозніваліся адзін ад другога нашы паэты, якімі б непадобнымі былі яны адзін на другога як творчыя індывідуальнасці, у кожным з іх праяўляецца дух часу. Не аднолькава, па-рознаму, але праяўляецца. І якімі б рознымі, скажам, ні былі паэмы «Калыханка» Васіля Віткі, «Цунамі» і «Далёка да акіяна» Аркадзя Куляшова, «Матчын дом» Максіма Лужаніна, «Маналог зямлі» Аляксея Русецкага, «Паэма дарог» Сяргея Грахоўскага, «З твайго паверху» Алега Лойкі, «Профіль веку» Сцяпана Гаўрусёва, — якімі б, кожная па-свойму, асаблівасцямі ні вызначаліся гэтыя паэмы, напісаныя за апошнія гады, усе яны тым не менш знаходзяцца ў рамках адной і той жа рэвалюцыйна-гістарычнай праблематыкі, усе народжаны думкай пра народ, пра лёс чалавека і чалавецтва.

Мы назвалі ў якасці прыклада паэмы. Але з поўным правам можна сказаць тое самае пра ўсе лепшыя кнігі і асобныя творы, якія ўбачылі свет за мінулыя гады і якія красамоўна сведчаць аб тым, што наша паэзія паспяхова пашырае свае ідэйна-тэматычныя далягляды, паглыбляе свой філасофскі роздум, умацоўвае свае пазіцыі ў змаганні за новае жыццё, за новага чалавека. Пафасам жыццесцвярджэння і грамадзянскім неспакоем прасякнуты, у прыватнасці, кнігі «Пры святле маланак» П. Панчанкі, «Між чырвоных рабін» П. Броўкі, «Сасна і бяроза» А. Куляшова, «Твае далоні» А. Пысіна, «Агледзіны» М. Аўрамчыка, «Служба святла» А. Русецкага, «Паясы» М. Калачынскага, «Лінія перамены дат» Р. Барадуліна, «Тры цішыні» А. Вярцінскага, «Дыханне» Г. Бураўкіна, «Пераховы» Н. Гілевіча, «Дзівасіл» А. Лойкі, «Профіль веку» С. Гаўрусёва, «Яснавокія мальвы» Е. Лось, «Акно» П. Макаля, «Дзень» Я. Сіпакова, «Баравіна» Ю. Свіркі, «Крутаяр» В. Зуёнка, «Абнаўленне» Р. Тармолы, новыя творы А. Астрэйкі, А. Бачылы, А. Бажко, С. Грахоўскага, С. Дзяргая, К. Кірэенкі, П. Прыходзькі, А. Грачанікава, Ул. Паўлава, К. Цвіркі, А. Ставера, М. Рудкоўскага і іншых паэтаў. Пасмяротна выйдзе кніга рана пакінуўшага нас таленавітага паэта А. Сербантовіча.

Гучыць грамадска-рэвалюцыйная тэма, тэма гераізму і ў вершах паэтаў самага апошняга прызыву. Тут хочацца прыгадаць імёны Вольгі Іпатавай, Ніны Мацяш, Рыгора Семашкевіча, Жэні Янішчыц, Міколы Федзюковіча. Адчуваецца, што маладыя арганічна ўспрынялі лепшыя традыцыі, звязаныя з агульным поступам нашай паэзіі.

Натуральна, што разам з ідэйна-грамадзянскім ростам нашай паэзіі ўзмацнялася яе ўвага да чалавека як асобы,

да маральна-этычных праблем. Гэты плённы працэс даваў аб сабе знаць у творчасці многіх нашых паэтаў і прынёс станоўчыя вынікі. Такія паняцці, як дабро, зло, шчасце, спагада, сумленне, набываюць у паэзіі ўсё больш рэальны, жыццёва-чалавечы змест і ўсё радзей выконваюць у ёй, як гэта часта здаралася раней, функцыю схемы, штампа. Напрыклад, кніга П. Броўкі «Між чырвоных рабін» — гэта бескампрамісны дыялог з самім сабой, з сваім сэрцам, з сваім сумленнем, са сваім мінулым.

Перачытваючы кнігу П. Панчанкі «Пры святле маланак», чытаючы яго новыя творы, яшчэ раз пераконваешся, што яго паэзія —гэта голас жывога сумлення, гэта абвостраная турбота за чалавечае «шчасце, якое так цяжка ўладкаваць на зямлі».

Адкрываеш новую кнігу Аркадзя Куляшова «Сасна і бяроза» і не можаш не спыніцца на многіх яе ясных па думцы, глыбока вынашаных радках:

**Пішу: я, сведка ўсіх падзей,**
**Сірочых слёз, вайны, разлукі,**
**Жадаю шчасця для людзей...**
**Я знаю, што такое мукі.**

«Сведка ўсіх падзей», паэт піша аб розніцы паміж славай заслужанай і незаслужанай, аб сумленні, якое можа толькі «някупленым быць», аб немагчымасці лёгкага, спакойнага шчасця... І вершы паэта, якія складаюць першую частку кнігі, з'яўляюцца свайго роду пралогам да яе другой часткі, дзе змешчаны паэмы «Цунамі» і «Далёка да акіяна». Бо вяртанне паэта да «крыніц маленства», імкненне зноў прайсціся па сцежках юнацтва (гутарка ідзе пра другую паэму, бо пра першую, якая надрукавана раней, нямала ўжо сказана і напісана), — не бязмэтная забава для паэта, а пошук маральнага ідэалу, сапраўдных жыццёвых каштоўнасцей.

**У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...**



В. Іпатава і Я. Брыль...

І яшчэ адна характэрная адзнака паэзіі мінулага перыяду — яе вернасць ваеннай тэме. Тэма вайны, як вядома, колькі ўжо часу з'яўляецца адной з самых важных і нязменных у нашай беларускай паэзіі. Паглыбленне ў ёй філасофскай плыні, узмацненне маральнага пафасу спрыялі ў сваю чаргу далейшай распрацоўцы тэмы вайны. Распрацоўка гэта ішла ў асноўным па двух лініях: старэйшыя паэты, удзельнікі вайны, як, напрыклад, А. Пысін, працягвалі асэнсоўваць свой франтавы вопыт; паэты маладзейшыя вярталіся да ўражанняў свайго ваеннага дзяцінства і імкнуліся асвятляць гэтыя ўражанні з пазіцый сённяшняга дня. З'явіліся паэмы «Маналог» А. Куляшова, «Белы камень» і «Кара» А. Пысіна, «Матчын дом» М. Лужаніна, «Волхаўская споведзь» М. Аўрамчыка, «Блакада» Р. Барадуліна, «Сто вузлоў памяці» Н. Гілевіча. «Хатынскі снег» Г. Бураўкіна, «Кожны чацвёрты» А. Вярцінскага, «Хатынь» Б. Спрынчана, «Мацярык маленства» В. Макарэвіча... З'явіліся паэмы і вершы, якія пералічыць тут немагчыма, бо іх шмат. Справядліва ж заўважана, што рэдка бывае ў беларускага паэта нізка вершаў, у якой не было б твора пра вайну. Вазьміце, да прыкладу, апошнія нізкі Юрася Свіркі і вы пераканаецеся, што гэта сапраўды так.

Ды і справа зноў-такі не ў колькасці. Справа ў тым, што далейшая распрацоўка тэмы ішла на больш высокай ідэйна-мастацкай аснове, паглыблялася асэнсаванне вялікага народнага подзвігу, драматызму тагачасных падзей. Балючае рэха вайны працягвала выклікаць у нашых сэрцах усё новыя і новыя пачуцці і вымагала для гэтых пачуццяў адпаведных слоў — і сумных, і суровых, і мужных.

**Сябры, каго вайна скасіла кулямі,**
**Дыханне ваша чую за спіной,**
**Зноў грозна, разварушанымі вуллямі**
**Гудуць франты...**
**Не ціхне вечны бой.**

Мы спыніліся на галоўных тэндэнцыях, якія вызначалі развіццё нашай паэзіі ў другой палове 60-х і пачатку 70-гадоў. Відаць, не трэба спецыяльна агаворвацца, што былі ў яе і іншыя клопаты і інтарэсы, радасці і засмучэнні, што яна апявала і любоў, і дружбу, і подых вясновага ветру, і радасць жыцця ўвогуле. Тут можна спаслацца на творы А. Бачылы, С. Грахоўскага, А. Зарыцкага, А. Вольскага, П. Макаля, Р. Тармолы, на вершы нашых паэтэс — Э. Агняцвет, Д. Бічэль-Загнетавай, Н. Тарас, В. Вярбы. Наша выдавецтва запланавала зборнік любоўнай лірыкі, і ў нашых паэтаў, я спадзяюся, знойдзецца дастаткова твораў для такой кнігі. Наогул, думаецца, вельмі ўмоўны прынцып падзелу паэзіі на грамадзянскую і асабістую, інтымную. Сапраўды таленавітая лірыка гарманічна спалучае ў сабе асабістае і сацыяльнае, гаворыць пра час, як пра сябе, і пра сябе, як пра час. Праўда, з другога боку, калі развіваць думку класіка, не ўратуе дрэннага паэта і вялікая, важная сама па сабе грамадская тэма. Бо сапраўдная грамадзянскасць — гэта жывая страсць, жывая думка, жывое натхненне. За ёй заўсёды стаіць сама асоба паэта.

Другая справа, калі паэт бярэцца за актуальную палітычную тэму, але яму няма чаго, па сутнасці, сказаць, няма чым падзяліцца з чытачом. Тады ў яго з-пад пяра выходзіць толькі падабенства грамадзянскага верша. На жаль, у нашым друку, асабліва ў газетах, такія вершы часта з'яўляюцца, і належаць яны нярэдка паэтам, імя якіх даволі вядома і якія не маюць права на дрэнныя вершы — якім бы добрым намерам яны ні кіраваліся.

І наогул, размова наша пра паэзію была б, відаць, недастаткова дзелавой, калі б са з'ездаўскай трыбуны не сказаць, што не ўсё тут добра, што не ўсе творы, якія з'яўляюцца з-пад пяра паэтаў, адпавядаюць свайму прызначэнню. Хапае яшчэ, гаворачы словамі Бялінскага, і «птушыных песень», патрэбных толькі іх аўтарам, і шэрасці, і бясплённага рыфмавання. Цяжка сёння знайсці чытачоў для такой прадукцыі, бо чытач пайшоў дасведчаны, культурны, але выдаўцы і рэдактары, як гэта ні сумна, для яе знаходзяцца. У чым тут справа? Мне здаецца, што адна з прычын з'яўлення дрэнных вершаў заключаецца ў тым, што іх аўтары губляюць дар першаадкрывальніка і ў выніку плятуцца ў хвасце падзей, паўтараюць усім вядомыя ісціны. Між тым паэзія павінна заўсёды быць у пошуку, у руху, у імкненні да навізны. У гэтым яе сапраўдная наватарская сутнасць. Праўда, існуе наіўнае меркаванне, што наватарства заключаецца ў нейкай новай рыфмоўцы ці ў адсутнасці рыфмы наогул, у нейкай незвычайнай будове страфы. Не, сапраўднае наватарства заключаецца не ў гэтым. Яно пачынаецца з новага падыходу да тэмы, з новай ідэі, новага погляду. Якімі б старымі, нават дапатопнымі ні выглядалі ямбы і харэі, але калі ў творы ёсць новы змест, новы дух — ён будзе сапраўды наватарскім. Гаворым: верш класічны, традыцыйны, верш белы, верлібр... На самай жа справе літаратура знае вершы добрыя і дрэнныя. Вось дзе рэальны водападзел.

Вядома, нельга ігнараваць і такі фактар, як выяўленчыя сродкі. Без добрага густу, без адчування формы майстэрства не дасягнеш. Некаторым нашым паэтам якраз і не хапае стылявой выразнасці, хаця, як вядома, стыль — гэта чалавек. Мы яшчэ часам пішам па шаблоне, мала дбаем пра гучанне свайго слова, і ў выніку — тая самая шэрасць, панылась, пра якую ішла вышэй гутарка. Але што тут ад чаго залежыць? Відаць, невыразнасць формы параджаецца невыразнасцю зместу, няпэўнасцю аўтарскай пазіцыі, лянотай яго думкі і яго душы. Усе жанры, як вядома, добрыя, беззаганныя усе формы, у санета такія ж правы на жыццё, што і ў верлібра, — але натуральнасць гучання кожнай з гэтых форм вызначаецца ў кожным канкрэтным выпадку натуральнасцю зместу. Дарэчы, многія нашы паэты, як змовіўшыся, звярнуліся нядаўна да формы санета. З цэлымі вянкамі санетаў выступілі А. Звонак, Н. Гілевіч, Хв. Жычка, В. Макарэвіч, А. Сербантовіч. Я. Сіпакоў, які аддае ўвогуле перавагу раскаванаму вершу, звярнуўся да такіх цвёрдых класічных формаў, як трыялет і актава. А з другога боку, П. Панчанка і некаторыя іншыя паэты, якія няблага сябе адчуваюць і ў рамках традыцыйных памераў, аддалі даніну вершу вольнаму. І мы маглі, такім чынам, пераканацца наглядна, што справа не ў самой форме, а ў тым, як яна выкарыстоўваецца, наколькі яна змястоўная. Мы, у прыватнасці, маглі бачыць, што некаторым санетам, напрыклад, Хв. Жычкі, якраз і не хапае жывога паэтычнага зместу. Калі верш перакладаецца мовай прозы, узнікае пытанне: чаму ён верш?

На ніве нашай паэзіі сёння супрацоўнічае некалькі пакаленняў. Не так даўно ў часопісе «Полымя» былі змешчаны новыя вершы Канстанцыі Буйло, першы зборнік якой, «Курганная кветка», выйшаў яшчэ ў 1914 годзе пад рэдакцыяй самога Янкі Купалы. А побач з вершамі Канстанцыі Антонаўны мы чытаем таксама спелыя ўжо творы дваццацігадовай Жэні Янішчыц. Вось які ўзроставы абсяг нашай сённяшняй паэзіі! Ён не можа не радаваць, ён гаворыць пра яе разнастайнасць, пра яе сталасць і яе маладосць. Зрэшты, той факт, што такія нашы паэты, як Броўка, Куляшоў, Панчанка, Пысін, Русецкі, Зарыцкі перажываюць сёння сваю другую маладосць, якраз і пацвярджае тую ісціну, што ў паэзіі ўзроставы цэнз — не галоўнае і што межы паміж маладой і немаладой паэзіяй вельмі і вельмі ўмоўныя. І калі ўсё ж варта сказаць асобна яшчэ некалькі слоў пра нашых маладых, то толькі таму, што мы ў штодзённай сваёй мітусні недастаткова ўдзяляем ім увагі. Кажуць, што каб кожны чалавек пасадзіў пры жыцці хоць адно дрэва, то зямля была б садам. Добра было б, каб кожны з нас дапамог хоць аднаму маладому аўтару стаць творча на ногі. І зусім не трэба імкнуцца, каб цябе нехта паўтараў. У мастацтве гэта якраз і не трэба. Хай табе запярэчаць, хай пойдуць па іншым шляху,— так яно і павінна быць,—але каб твае ўрокі дапамаглі зрабіць крок наперад.

Мы называлі некаторыя імёны нашых маладых паэтаў, у прыватнасці Алеся Разанава. Ён безумоўна таленавіты добры паэт, ён умее мысліць у вершы і мысліць свежа, арыгінальна. Праўда, часам яму трохі шкодзіць кніжнасць. Самабытнага, цікавага паэта маем мы і ў асобе Янішчыц. Тонкім лірызмам прасякнуты «Паштоўкі перад Новым годам», «Разлука ўпала на бровы» і іншыя яе вершы.

Добрае ўражанне пакідаюць і вершы Ю. Голуба, Р. Семашкевіча, Ул. Скарынкіна, Н. Мацяш — аўтараў першых кніг паэзіі. Заслугоўваюць таксама ўвагі творы Г. Каржанеўскай, В. Жуковіча, М. Баравік, Н. Шкляравай, П. Марціновіча. На наш вялікі жаль, трагічна загінулі таленавітыя маладыя паэты Сымон Блатун і Леанід Якубовіч.

Некалькі слоў пра тых нашых таварышаў, што пішуць на рускай мове. Мы, відаць, зноў-такі недастаткова цікавімся іх справамі. Між тым сярод іх ёсць такія сталыя мастакі слова, як Н. Кіслік, Д. Сімановіч, Б. Спрынчан, С. Яўсеева, Ф. Яфімаў. З першымі сваімі зборнікамі выступілі Н. Зверава, М. Капанёў, Л. Рашкоўскі, падрыхтавалі да друку кнігі Л. Ганчарова, В. Маргуліс, В. Маскаленка, Г. Карпава, Н. Татур і інш. У Навагрудку жыве паэт Гаўрыіл Шутэнка, які быў у часе вайны разведчыкам і страціў у баі зрок. Не так даўно ён выдаў другі свой зборнік. Ёсць у гэтым зборніку радкі, якія нельга чытаць без хвалявання. Вось яны:

**Идти во мраке тяжело.**
**Но я за солнце отдал зренье.**
**И от того, что всем светло,**
**Во мне не гаснет вдохновенье.**

Добрая творчая дружба з нашымі паэтамі ў вядомага яўрэйскага паэта Хаіма Мальцінскага. Лірыка яго поўная роздуму аб суровых гадах вайны, аб беззваротных стратах, у той жа час яна сагрэта цёплай усмешкай і любоўю да жыцця, верай у чалавечую праўду і дружбу. Добра гучаць гэтыя вершы ў перакладах нашых паэтаў.

За апошнія гады выйшла дзесяткі паэтычных кніг — чарговых, другіх, першых... Пачалі выходзіць томікі ў новай серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». У апошнія гады выдаваўся альманах «Дзень паэзіі». Аднак у нашай паэтычнай секцыі ёсць і свае засмучэнні, свае праблемы і прэтэнзіі. Па-першае, звяртае на сябе ўвагу той непрыглядны факт, што рэзка зменшылася месца паэзіі ў планах нашага выдавецтва «Беларусь». Калі ў 1967 годзе было выдадзена 32 паэтычныя кнігі, а ў 1969 — 33, то ў мінулым годзе іх было выдадзена... толькі 16. Амаль столькі ж арыгінальных кніг паэзіі запланавана і на сёлетні год. Па невядомай прычыне скарацілася з пяці да адной кніжкі ў год «Бібліятэка беларускай паэзіі». Атрымоўваецца сумны малюнак: колькасць рукапісаў павялічваецца, паэзія і колькасна і якасна расце, а плошча для друкавання не толькі застаецца ранейшай, але нават скарачаецца. Востра адчуваецца недахоп літаратурна-паэтычнага дадатку да якога-небудзь з нашых часопісаў. Наспела патрэба ператварыць «Дзень паэзіі» калі не ў часопіс, то хоць бы ў штоквартальнік. Трэба нешта рабіць і ў сэнсе выдавецкіх магчымасцей. Бо хіба можна лічыць нармальным такое становішча, калі зборнікі маладых ляжаць у выдавецтве гадамі, а ўжо вядомы, творча актыўны паэт можа выдаць у нас кнігу ў тры-чатыры гады?

Наогул у нас не можа не выклікаць трывогі той стыль, які дае знаць сёння ў адборы, рэцэнзаванні і рэдагаванні паэтычных кніг выдавецтвам «Беларусь». Ці не занадта тут чыноўніцкай абыякавасці, прадузятасці і неапраўданых прыдзірак да аўтараў?

З развіццём навукова-тэхнічнай рэвалюцыі паэзія мяняе свой характар. Асноўнымі прынцыпамі ў ёй, як і раней, застаюцца партыйнасць і народнасць; яна ўласцівымі ёй сродкамі адлюстроўвае вопыт савецкага народа, яго думкі і пачуцці. Але ў той жа час верш набывае больш дынамічны характар, у ім ўсё мацней дае знаць асацыятыўнае мысленне, пачынаюць знікаць апісальнасць і пасіўная сузіральнасць. Цяпер здаецца нават смешным супрацьпастаўленне — фізікі ці лірыкі! Патрэбны і тыя і другія. Але паэт не здолее сёння стварыць сапраўды каштоўны твор без глыбокага ведання асноўных праблем сацыялогіі, эканомікі, фізікі і г. д.

Прыемна адзначыць, што лепшыя творы нашых паэтаў сёння менш дэкларацыйныя, рытарычныя, а больш канкрэтныя, прасякнутыя роздумам пра жыццё чалавека, краіны і ўсёй планеты. Сама сабой адпадае спрэчка пра «наватараў» і «традыцыяналістаў». І верш, напісаны класічным памерам, і белы верш, і верлібр можа прэтэндаваць сёння на ўвагу чытача толькі тады, калі ён па-сапраўднаму таленавіты, па-сапраўднаму мастацкі, калі паэт здолеў пачуць і праўдзіва перадаць чытачу музыку народнага жыцця, рытмы свайго неспакойнага часу.

БЕЛАРУСКАЯ драматургія доўгі час у нас лічылася, як дарэчы, і ў іншых саюзных рэспубліках, бадай, самым адсталым відам літаратуры. І гэта сапраўды было так. Справа тут не толькі ў тым, што ў жанры драматургіі працаваў увогуле невялікі калектыў, асабліва ў параўнанні з паэзіяй і прозай. Справа і ў тым, што тыя даволі нешматлікія п'есы, якія з'яўляліся ў свет, неяк малапрыкметна пражывалі сваё нядоўгае жыццё, не станавіліся падзеяй мастацтва.

Сярод аўтараў, якія працавалі ў драматургіі за справаздачны перыяд, варта назваць старэйшых пісьменнікаў — Кастуся Губарэвіча, Андрэя Макаёнка, Аркадзя Маўзона, Алеся Бачылу, а таксама маладых актыўных драматургаў — А. Дзялендзіка і М. Матукоўскага. Пісалі таксама п'есы Валянцін Зуб, Алесь Махнач, Пятро Харкоў. У драматургію прыйшлі з прозы Аляксей Карпюк, Уладзімір Мехаў, з прозы і паэзіі — Уладзімір Караткевіч, Пятрусь Макаль, Анатоль Вярцінскі і некаторыя іншыя аўтары.

Некалькі год назад Кастусь Губарэвіч выступіў з драмай на гісторыка-рэвалюцыйную тэму «Брэсцкі мір» — пра змаганне Леніна і ленінцаў за заключэнне Брэсцкага міру. Тэма гэтая надзвычай важная. І тым большае яна мае для нас значэнне, што ў пэўнай ступені звязана з Беларуссю.

У цэнтры падзей «Брэсцкага міру» — вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна. І гэта да многага абавязвае аўтара. Але, на жаль, далёка не ўсё ўдалося драматургу, ёсць пэўны налёт у п'есе меладраматызму, ёсць непатрэбныя дэтэктыўныя сцэны. Але разам з тым ёсць у «Брэсцкім міры» і шмат станоўчых якасцей.

Кастусь Губарэвіч і Аркадзь Маўзон працавалі над стварэннем новых варыянтаў п'ес, якія былі напісаны імі раней і якія карысталіся поспехам. «Людзі і каменні» — новы варыянт «Брэсцкай крэпасці» Губарэвіча. Маўзон таксама тое-сёе змяніў у сваім «Канстанціне Заслонаве». У «Людзях і каменнях» і «Канстанціне Заслонаве» ёсць пэўныя знаходкі, здабыткі. Але спектаклі, падрыхтаваныя па іх, усё ж не ўзняліся да ўзроўню мінулых пастановак. Тут сказалася слабасць нашай тэатральнай рэжысуры.

Маўзон напісаў некалькі новых п'ес. Найбольш значнай з іх з'яўляецца «Усяго адно жыццё». Драма дынамічная, выклікаюць цікавасць тыя маральныя праблемы, якія ў ёй закранаюцца. Але ў творы ёсць і пэўныя літаратурныя штампы. Варта адзначыць, што, хоць і не заўсёды з поспехам, Аркадзь Маўзон працягвае, аднак, распрацоўваць тэмы сучаснасці, узнімаючы маральна-этычныя праблемы.

П'есы, якія тут называліся, — не самага апошняга часу. І яны яшчэ, як кажуць, не зрабілі пагоды. Гэта лепш за ўсё можа пацвердзіць работа і прадукцыя беларускіх тэатраў—той барометр, які паказвае стан нашай драматургіі. Калі браць беларускі тэатр імя Янкі Купалы, які павінен быць не толькі тэатральнай акадэміяй, а і кузняй беларускай драматургіі,—гэты калектыў на працягу аж некалькіх год не ставіў ніводнай п'есы нашых аўтараў.

У апошні час справа значна палепшылася. З'явіліся новыя п'есы Андрэя Макаёнка, Мікалая Матукоўскага, Анатоля Дзялендзіка і некаторых іншых пісьменнікаў.

Андрэй Макаёнак, які доўга маўчаў сам, а пасля колькі год замоўчвалі яго камедыю «З кірмашу», цяпер адразу выступіў з двума драматычнымі творамі—«Зацюканым апосталам» і «Трыбуналам».

П'еса «Зацюканы апостал», якая расказвае пра жыццё сям'і ў адной з невялікіх капіталістычных краін, па сваёй філасофіі, па тых праблемах, якія ў ёй ставяцца на парадак дня, узнімаецца значна вышэй самога ахопу падзей. У наш час, калі вядзецца пастаянная, непрымірымая барацьба дзвюх ідэалогій — сацыялістычнай і капіталістычнай, — п'еса «Зацюканы апостал» стаіць у страі актыўных барацьбітоў. Яна выкрывае ханжаства буржуазнай маралі, якая дзе-нідзе шукае сабе прытулку і ў нашым грамадстве, паказвае бесперспектыўнасць, поўную асуджанасць гэтай маралі.

Вельмі цікавай з'яўляецца і другая п'еса Макаёнка — трагікамедыя «Трыбунал». Яна расказвае пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Дарэчы, пра гэтыя падзеі ў нас напісана багата твораў, у тым ліку і драматычных. Як правіла, твораў гераічнага, патэтычнага гучання. Макаёнак у «Трыбунале» дае зусім нечаканы паварот — і ў трактоўцы самой тэмы, і ў агульным гучанні п'есы, у асэнсаванні саміх падзей. Ён ідзе ад даўніх добрых народных традыцый — ад лубка. Глыбока драматычнае, як гэта найчасцей і бывае ў жыцці, ідзе побач з камедыйным, а часам і пераплятаецца самым непасрэдным і цесным чынам. Гераізм простых, звычайных людзей выяўляецца ў «Трыбунале», здавалася б, зусім нечакана, ён высветлены драматургам з новага боку. Аўтару ўдалося ў творы асноўнае — паказаць высокі, заўсёды нязгасны аптымізм народнага духу, народнай сілы, мужнасці, нескаронасці ворагу.

З цікавай п'есай «Амністыя» выступіў Мікалай Матукоўскі. У ёй закранаецца цэлы шэраг важных праблем нашага жыцця, паказваецца барацьба людзей супраць уяўнай дабрачыннасці, супраць славутай паказухі і іншыя. Драматычны твор напісаны дасціпна. І хоць часам не ўсе праблемы глыбока вырашаюцца ў «Амністыі», іх, відаць, замнога закранаецца ў адной п'есе, — яна карыстаецца ў гледачоў заслужаным поспехам. І поспех гэты перш за ўсё тлумачыцца актуальнасцю драматычнага твора Матукоўскага, яго надзённасцю.

Калі раней у нас шмат гаварылася пра адставанне драматургіі — і гэта было сапраўды так,— то зусім нядаўна, літаральна ў апошні час, справы змяніліся, можна сказаць, карэнным чынам.

З'яўленне новых п'ес, асабліва «Трыбунала» і «Зацюканага апостала» Андрэя Макаёнка і «Амністыі» Мікалая Матукоўскага, вывела нашу драматургію недзе на самыя пярэднія рубяжы драматургіі ўсесаюзнай, найбольш значныя яе дасягненні звязаны сёння менавіта з беларускімі творамі, у першую чаргу з імем А. Макаёнка.

Але, гаворачы пра гэта, нельга забывацца і пра колькасныя паказчыкі. Яны ўсё яшчэ ў нас невысокія — новых п'ес па-ранейшаму з'яўляецца мала. І гэта асабліва добра відаць па рэпертуары тэатраў. Беларуская драматургія часам уяўляецца толькі невялічкімі астраўкамі ў марскіх затоках.

Тут, з нашай з'ездаўскай трыбуны, трэба зрабіць папрокі тэатрам, якія не зусім ахвотна бяруцца працаваць над творамі беларускіх драматургаў. І таму шлях некаторых п'ес на сцэну атрымліваецца занадта доўгім, а іншыя з іх да яе і зусім не даходзяць. Даўно пара было б, напрыклад, зацікавіцца тэатрам рамантычнай трагедыяй Уладзіміра Караткевіча пра Кастуся Каліноўскага, а таксама некаторымі іншымі творамі, якія ўсё яшчэ не пастаўлены на сцэне.

Беларускія тэатры даволі ахвотна працуюць над класічнымі творамі. Але чамусьці не працуюць над пастаноўкай беларускіх п'ес мінулых часоў, за вельмі рэдкім выключэннем да іх не звяртаюцца. А між тым у нас таксама ёсць класічныя творы, і іх фонд багаты. Думаецца, тэатрам значна часцей трэба звяртацца да гэтага фонду, каб усё ж наша айчынная драматургія заняла больш важнае месца ў дзеючым рэпертуары.

Аднак, робячы папрокі тэатрам, мы такія ж папрокі павінны зрабіць і самім сабе. У жанры драматургіі працуе ўсё яшчэ невялікі атрад літаратараў. Быў час, калі ўсе лепшыя нашы пісьменнікі лічылі сваім абавязкам пісаць і для тэатраў. Прыгадаем Янку Купалу, Якуба Коласа, Кузьму Чорнага, Міхася Чарота, Эдуарда Самуйлёнка, Змітрака Бядулю. Цяпер гэтае добрае правіла забыта. Цяпер нават тыя, хто ўжо добра зарэкамендаваў сябе ў драматургіі, не працуюць для тэатраў. Нас асабліва непакоіць і той факт, што ў драматургію вось ужо колькі год амаль не ідзе новае таленавітае папаўненне.

Дрэнныя ў нас справы з драматычнымі творамі для дзяцей. З іх можна назваць толькі п'есу Івана Шамякіна «Дзеці аднаго дома», казку П. Макаля і А. Вольскага ды творы «Маленькія салдаты Брэсцкай крэпасці» і «Шпачок» Алеся Махнача.

Два словы пра аднаактовую драматургію. Яна ў нас у апошнія гады зусім занядбана. Будзем спадзявацца, што конкурс, які аб'яўляе Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў на аднаактовыя п'есы, дасць, нарэшце, значны плён у малой драматургіі.

Пэўнае месца на сцэне займаюць інсцэніроўкі буйных празаічных і драматычных твораў. Практыка паказвае, што найбольшы поспех маюць тыя інсцэніроўкі, якія пішуць самі аўтары раманаў.

Зноў-такі варта было б нашым тэатрам успомніць не толькі лепшыя п'есы мінулага, але і класічныя творы беларускай прозы і паэзіі. Рускія тэатры жывуць на інсцэніроўках Талстога, Дастаеўскага, Тургенева, і спектаклі такія карыстаюцца значным поспехам.

Справе развіцця нашай драматургіі, сцэнічнага мастацтва павінна дапамагаць тэатральная крытыка. Найбольш актыўна працавалі за справаздачны перыяд у гэтым жанры Уладзімір Няфёд, Анатоль Сабалеўскі, Барыс Бур'ян, Георгій Колас, Уладзімір Стэльмах і некаторыя іншыя аўтары. Адзначаючы пэўныя поспехі і дасягненні ў тэатральнай крытыцы за апошнія гады, усё ж неабходна заўважыць, што артыкулы і рэцэнзіі на новыя п'есы і пастаноўкі з'яўляюцца ў друку несвоечасова, а часам і зусім не з'яўляюцца.

У нас яшчэ мала грунтоўных прац абагульняючага характару, даследаванняў, якія распрацоўвалі б актуальныя тэарэтычныя праблемы. У гэтым сэнсе можна назваць толькі работы «Роздум над драматычнымі канфліктамі» Уладзіміра Няфёда і «Беларуская савецкая драма» Анатоля Сабалеўскага, якая падагульняе здабыткі нашай даваеннай драматургіі.

Гаворачы пра работу тэатральных крытыкаў і тэатразнаўцаў, нельга не адзначыць, што ім, асабліва вялікія працы, няма дзе друкаваць. У нас пра гэта ўжо шмат вялося размоў, прымалася розных пастаноў. Але справы пакуль не змяніліся.

Пра драматургію кіно, акрамя размовы на пленуме Праўлення нашага саюза, многа гаварылася на з'ездзе Саюза кінематаграфістаў, які адбыўся ўсяго месяц назад. Сцэнарная праблема бадай што была ў цэнтры і даклада і выступленняў большасці дэлегатаў. І гэта зусім натуральна, бо аснова спектакля, фільма — літаратурны матэрыял. Перад з'ездам кінематаграфістаў на гэтую балючую тэму вёў даволі шырокую гаворку тыднёвік «Літаратура і мастацтва». Але, думаецца, дагэтуль не высветлена, каму ж больш баліць ад гэтай праблемы — пісьменнікам ці кіраўніцтву кіно. Мы стукаем сябе ў грудзі, клянёмся ва ўзаемнай любві, пераконваем адзін аднаго ў сваім болі, у сваёй заклапочанасці і адміністрацыйна-арганізацыйным гарэнні, а творчы воз — ні з месца.

Сапраўды, нягледзячы на аптымістычныя прагнозы, якія выказваліся з трыбуны пленума аб наладжванні творчых кантактаў паміж беларускімі драматургамі і студыяй «Беларусьфільм», усё наступнае абмеркаванне гэтага пытання на старонках прэсы, на з'ездзе кінематаграфістаў гавораць за тое, што аптымізм быў заўчасны.

Відаць, таварышы, якія будуць выступаць, пра гэта скажуць больш падрабязна. У дакладзе, бадай, варта абмежавацца паўтарэннем ісціны старой і агульнавядомай: без прыцягнення да стварэння сцэнарыяў пісьменнікаў-прафесіяналаў кінастудыя ўсё больш і больш будзе траціць сваё нацыянальнае аблічча і наўрад ці ўдасца ёй узняцца вышэй безаблічнага сярэдненькага, шэранькага мастацкага ўзроўню.

Таленавітая драматургія, якая набывае самастойнасць і сталасць на сусветным блакітным экране, у нас пакуль што знаходзіцца ў зародкавым стане. Развіццё яе стрымліваецца штучна самім тэлебачаннем, галоўным чынам, сістэмай неўладкаванай аплаты. Але гэта праблема агульнасаюзная. Беларуская студыя прарабіла пэўную работу па інсцэніраванні твораў прозы і паэзіі і гэтым дапамагла іх прапагандзе. Але тэлебачанне дае неабмежаваныя, невычарпальныя магчымасці для новых форм перадачы твораў літаратуры, для стварэння новых форм мастацтва, якое так і называецца ўжо — тэлевізійнае. Трэба, каб і работнікі Камітэта па тэлебачанні і радыё, і мы, пісьменнікі, больш актыўна шукалі новыя формы, ні на момант не забываючы пры гэтым, што тэлебачанню не ў меншай, а ў большай меры, чым кінематографу, патрэбна сучаснасць, патрэбны героі нашых дзён, патрэбны новыя актуальныя тэмы.

ПЭЎНЫХ поспехаў дасягнула за апошнія пяць гадоў наша дзіцячая літаратура.

Прыемна напомніць, што ў нас, нарэшце, выйшла двухтомная анталогія «Арлянятам» — том паэзіі і том прозы — добра складзеная і афармленая. Як вельмі станоўчую з'яву трэба падкрэсліць таксама той факт, што значна пабагацела апошнім часам наша «Школьная серыя» — за пяць гадоў выйшла больш пяцідзесяці кніг лепшых здабыткаў беларускай літаратуры як класічнай, так і сучаснай. Праўда, адразу ж трэба агаварыцца, што добра ўзяты спачатку тэмп нечакана і незразумела, а галоўнае — непатрэбна змяніўся. У 1970 годзе выйшла, а на 1971 год запланавана ўжо не па дванаццаць кніжак у год, як было раней, а толькі па пяць. І гэта трывожыць. Яшчэ больш трывожным здаецца нам тое, што ў серыі «Бібліятэка дашкольніка і малодшага школьніка», два гады назад запраектаванай да выдання, не выйшла дагэтуль яшчэ ніводнай кніжкі. Перспектыўны план гэтай вельмі патрэбнай серыі, план цікавы і даволі багаты, быў у свой час старанна складзены нашай дзіцячай секцыяй і работнікамі Камітэта па друку. Не хапіла толькі, як гэта бывае ў нас даволі часта, настойлівасці, паслядоўнасці для ажыццяўлення гэтага плана.

Цяпер пра новыя кнігі, якія выйшлі за пяць міжз'ездаўскіх гадоў. Пачнём з прозы. Добра сустрэта і дарослым і маленькім чытачом аўтабіяграфічная тэтралогія Алены Васілевіч — аповесці «Расці, Ганька!», «Доля цябе знойдзе», «Новы свет» і «Пачакай, затрымайся». Не зніжаюць майстэрства і працавітасці такія вопытныя майстры, як Алесь Якімовіч, які напісаў апошнім часам аповесць «Канец сервітута» і яшчэ не апублікаваную кнігу пра Кастуся Каліноўскага; Алесь Пальчэўскі, які выдаў аповесць «Тайна аднаго звяна» і некалькі новых апавяданняў; Уладзімір Дубоўка — аўтар «Жоўтай акацыі»; Васіль Хомчанка, які сваім зборнікам «Зімовы дождж» удала папоўніў нашу ўсё яшчэ бедную бібліятэку малодшага чытача; Хведар Жычка з яго займальнымі кнігамі «Дзе растуць бяссмертнікі» і «Букет вяргіняў»; Галіна Васілеўская, аўтар дакументальнай аповесці «Малюнак на снезе». З аповесцю на гісторыка-рэвалю-



У зале пасяджэнняў з'езда.

гіі і крытыкі) — у выдавецтве «Еўропа» ў Будапешце; зборнік сучаснай беларускай паэзіі «Маладая Беларусь» у Сафіі; зборнік беларускай прозы ў перакладзе на серба-лужыцкую мову — у выдавецтве «Дамовіна» ў Будзішыне (ГДР); анталогія беларускай паэзіі ў перакладзе на англійскую мову выдаецца па лініі ЮНЕСКА.

Мы не можам у сувязі з гэтым не назваць імёнаў найбольш сталых і заўзятых паўнамоцных прадстаўнікоў нашай літаратуры за рубяжом — перакладчыкаў, паэтаў і выдаўцоў, такіх энтузіястаў у справе дружбы і ўзаемадзеяння літаратур, як польскі паэт Ян Гушча, літаратуразнаўцы і перакладчыкі ў ГДР — Алеанард Кошут і Норберт Рандаў, венгерская паэтэса і літаратуразнаўца Шары Кары, вядомыя балгарскія паэты Найдан Вылчаў, Іван Давыдкаў і Андрэй Германаў, крытык і літаратуразнаўца Георгій Вылчаў, а таксама такі даўні друг і перакладчык беларускай паэзіі на англійскую мову ў Англіі, Індыі і ў СССР, як англійскі паэт Уолтар Мэй.

Ненармальнай з'явай у нашым літаратурным працэсе з'яўляецца тое, што перакладныя кнігі, якія ў нас выходзяць, рэдка атрымліваюць кваліфікаваную крытыку. А тыя рэцэнзіі, якія час ад часу і з'яўляюцца ў друку на такія кнігі, носяць іншы раз агульны характар і тым самым не дапамагаюць пісьменніку зразумець, як яго кніга ўспрымаецца літаратурнай грамадскасцю ў братняй краіне, а свайму чытачу — даць шырокае ўяўленне аб мастацкай дасканаласці перакладу.

Наспела і настойліва просіць свайго вырашэння пытанне, якое ўздымалася на папярэднім з'ездзе — нам патрэбен часопіс для пачатку хоць бы квартальнік, дзе можна было б друкаваць пераклады на беларускую мову лепшых твораў сучаснай рускай, украінскай і другіх літаратур народаў СССР, народаў нашай сацыялістычнай садружнасці і прагрэсіўных твораў іншых замежных краін.

БЕЗ АСАБЛІВАГА перабольшання можна сказаць, што ў цэлым узнялася агульная тэарэтычная ўзброенасць беларускага літаратуразнаўства і крытыкі. Нашы даследчыкі літаратуры ў перыяд паміж пісьменніцкімі з'ездамі ўзнімалі і вырашалі складаныя і актуальныя праблемы, народжаныя жывым літаратурным развіццём, выдалі нямала цікавых і значных кніг, апублікавалі змястоўныя артыкулы і рэцэнзіі ў часопісах і газетах.

У 1966—1971 гадах выйшлі такія кнігі крытычных, а часткова і літаратуразнаўчых артыкулаў, як «З думай пра Беларусь» Г. Кісялёва, «Крылаты ўзлёт» Ул. Карпава, «Пісьменнікі, кнігі, героі» Я. Герцовіча, «Сляды часу» Д. Палітыкі, «Права на верш» А. Клышкі, «Давер» В. Каваленкі, «Карані маладога дрэва» А. Яскевіча, «Сустрэчы з днём сённяшнім» А. Лойкі, «Гісторыя і сучаснасць» С. Александровіча, «Шматграннасць» Д. Бугаёва, калектыўныя зборнікі «На высокай хвалі», «Максім Горкі і Беларусь». Шмат цікавага знойдзе чытач у кнігах І. Баса «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні», А. Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе».

Праблемны характар маюць калектыўныя кнігі і зборнікі даследаванняў «Праблемы сучаснай беларускай прозы», «Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс», «Беларуская савецкая проза. Раман і аповесць», «Сучасная беларуская паэзія».

Аўтары першай з гэтых кніг, даследуючы праблему суаднесенасці канфліктаў у мастацкім творы з жыццёвай рэальнасцю (Луфераў), праўду характару (Дзюбайла), залежнасць паміж сюжэтам мастацкага твора і рэчаіснасцю (Жураўлёў), пераканаўча паказваюць тыя вялікія якасныя зрухі, што адбыліся ў беларускай прозе на працягу дзесяцігоддзя пасля XX з'езда КПСС, падкрэсліваюць, што ўдумлівае стаўленне да жыцця, глыбокае разуменне яго галоўных праблем і вызначальных тэндэнцый садзейнічалі мастацкаму поспеху твораў І. Мележа, Я. Брыля, А. Кулакоўскага, І. Шамякіна, А. Карпюка, В. Быкава, І. Навуменкі, Ул. Караткевіча, Ул. Дамашэвіча, І. Пташнікава, Б. Сачанкі і іншых празаікаў.

У кнігах пра беларускае апавяданне і нарыс, пра раман і аповесць, аўтарамі якіх з'яўляюцца С. Андраюк, В. Жураўлёў, Л. Голубева, А. Лысенка, П. Дзюбайла, М. Мушынскі, Д. Гальмакоў і Э. Гурэвіч, падрабязна даследуюцца заканамернасці развіцця і тэндэнцыі станаўлення гэтых жанраў, іх вобразна-стылявая структура.

Аўтарскі калектыў кнігі «Сучасная беларуская паэзія» (Ул. Гніламёдаў, М. Барсток, М. Арочка і І. Ралько) разглядае важнейшыя асаблівасці сучаснай беларускай лірыкі, паэмы, сатырычнай паэзіі, а таксама аналізуе асацыятыўную вобразнасць беларускага верша.

Пасляхова працягвалася ў справаздачны перыяд вывучэнне сувязей нашай літаратуры з літаратурамі суседніх братніх народаў. Выйшла два зборнікі пра ўзаемадзеянне беларускай літаратуры з іншымі славянскімі і не толькі славянскімі літаратурамі — «Садружнасць літаратур» і «Старонкі літаратурных сувязей». Пэўную цікавасць мае даследаванне Н. Перкіна «В семье братских литератур», дзе, супастаўляючы беларускую літаратуру з іншымі літаратурамі сацыялістычнага рэалізму, аўтар вызначае іх агульнасць і спецыфічныя нацыянальныя рысы.

За апошнія гады павысіўся ўзровень беларускага параўнальнага літаратуразнаўства. Калі ў пяцідзесятыя гады, гаворачы аб літаратурным узаемадзеянні, аўтары пераважна вышуквалі вонкаватэматычныя і сюжэтныя паралелі, то цяпер больш сталі вывучаць глыбінныя працэсы. Занадта агульная канстатацыя ўплыву саступае месца канкрэтнаму аналізу вынікаў гэтага ўплыву. Зроблены першыя спробы перайсці да высвятлення месца беларускай літаратуры ў садружнасці савецкіх літаратур і літаратур славянскага свету. Павялічваецца цікавасць да тыпалагічнага супастаўлення літаратурных з'яў, роднаснасць якіх тлумачыцца не столькі непасрэднымі ці нават ускоснымі ўплывамі, колькі агульнасцю гістарычных умоў. Тыпалагічнымі паралелямі пачынаюць шырока карыстацца даследчыкі, якія раней займаліся выключна беларускай літаратурай (А. Адамовіч, Р. Бярозкін, В. Каваленка). Супастаўленні з іншымі літаратурамі аказваюцца для іх неабходнымі для таго, каб лепш пазнаць нацыянальную спецыфіку сваёй літаратуры.

Адзначаючы першыя поспехі беларускага параўнальнага літаратуразнаўства, нельга, аднак, замоўчваць тое, што яшчэ ўсё недастаткова даследуюцца беларуска-рускія сувязі, асабліва савецкага перыяду. Амаль зусім няма работ па тыпалогіі старажытнай беларускай літаратуры. За невялікім выключэннем (Я. Семяжон, Н. Лапідус), не даследуюцца сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі несацыялістычнага Захаду. Урэшце, яшчэ і цяпер працэс літаратурнага ўзаемадзеяння часцей за ўсё зводзіцца да ўплыву на беларускую літаратуру іншых, больш багатых традыцыямі літаратур, і недастаткова ўлічваецца адваротнае ўздзеянне.

Значныя поспехі ёсць у вывучэнні беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Тут у першую чаргу трэба прыгадаць капітальную двухтомную «Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры», выдадзеную ў 1968—1969 гадах.

З праблемных даследаванняў, якія асвятляюць асобныя актуальныя пытанні гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры, варта назваць грунтоўную манаграфію М. Грынчыка «Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі», кнігу «Пісьменнікі-дэмакраты» І. Навуменкі і некаторыя іншыя.

Вывучэнню фальклору ў яго розных аспектах прысвечаны кнігі «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967, пад рэдакцыяй П. Глебкі), «Беларуская казка» Л. Барага, «Наша родная песня» і «З клопатамі пра песні народа» Н. Гілевіча.

Падрабязны разгляд гісторыі Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя ў яе сувязі з развіццём беларускай літаратуры — у насычанай вельмі багатым фактычным матэрыялам манаграфіі «Пуцявіны роднага слова» С. Александровіча.

Гуманістычныя традыцыі беларускай дакастрычніцкай і савецкай літаратуры разглядаюцца ў кнізе В. Каваленкі «Голас чалавечнасці», у якой праблема гуманізму даследуецца ў яе гістарычным развіцці, у сувязі з канкрэтнымі этапамі развіцця нашага грамадства. Аўтар паслядоўна адстойвае высокую чалавечнасць беларускай літаратуры і мастацтва, іх даследчыя магчымасці ў разнабаковым пазнанні народнага жыцця, духоўнага свету чалавечай асобы. Вывучэнне гуманістычных традыцый беларускай літаратуры, пачынаючы з XIX стагоддзя і канчаючы літаратурай нашых дзён, пераходзіць тут у гаворку пра інтэлектуальнае багацце чалавечай асобы ў адлюстраванні нашых майстроў слова, пра духоўны воблік нашага сучасніка і яго стваральныя магчымасці ў сацыялістычным грамадстве, пра сапраўдны дэмакратызм мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

Гісторыя і некаторыя аспекты тэорыі беларускага вершаскладання асвятляюцца ў манаграфіі І. Ралько «Беларускі верш».

Сучаснае прачытанне беларускай даваеннай драматургіі дае А. Сабалеўскі ў кнізе «Беларуская савецкая драма». Першапачатковаму этапу станаўлення гэтага жанру ў нашай літаратуры прысвечана кніга А. Семяновіча «Беларуская савецкая драматургія 1917—1932».

У справаздачны перыяд наша крытыка шмат і не без поспеху займалася вывучэннем пісьменніцкага майстэрства. У гэтай сувязі трэба перш за ўсё назваць такое арыгінальнае даследаванне эстэтычнай сутнасці мастацкага слова, якім з'яўляецца таленавіта напісаная кніга «Літаратура і мова» Р. Шкрабы, працы А. Яскевіча «Ад слова — да вобраза», В. Рагойшы «Паэтыка Максіма Танка», Л. Гусевай «Янка Брыль — мастак». Спроба з дапамогай саміх стваральнікаў літаратуры пранікнуць у пісьменніцкую лабараторыю зроблена ў арыгінальнай па сваім жанры кнізе А. Гардзіцкага «Дыялогі».

Значная ўвага творчай індывідуальнасці майстроў мастацкага слова ўдзяляецца ў кнігах Р. Бярозкіна пра Пімена Панчанку, Ф. Куляшова пра Івана Мележа, М. Арочкі пра В. Таўлая, Д. Бугаёва пра Максіма Гарэцкага і Кандрата Крапіву і асабліва ў грунтоўных, праблемных па сваёй унутранай сутнасці даследаваннях І. Навуменкі пра Янку Купалу і Якуба Коласа.

Сваю бясспрэчную цікавасць маюць і многія іншыя даследаванні пра асобных беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў. Гутарка ідзе пра кнігі Я. Шарахоўскага «Пясняр народных дум», А. Макарэвіча «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы». Згадаем яшчэ цікавую працу М. Стральцова «Загадка Багдановіча», нарысы А. Ліса пра Б. Тарашкевіча, Ю. Пшыркова пра А. Багдановіча, Р. Семашкевіча пра Б. Эпімах-Шыпілу, С. Гусака пра А. Кулакоўскага.

У міжз'ездаўскія гады друкавалася нямала цікавых літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў і рэцэнзій. У гэтых жанрах з большай або меншай актыўнасцю выступалі вядомыя і менш вядомыя крытыкі — А. Адамовіч, Р. Шкраба, Р. Бярозкін, Ул. Калеснік, Ул. Юрэвіч, Я. Казека, І. Навуменка, С. Александровіч, Н. Гілевіч, А. Лойка, Д. Бугаёў, В. Каваленка, А. Яскевіч, Г. Кісялёў, А. Мальдзіс, С. Андраюк, В. Бечык, Ю. Пшыркоў, П. Дзюбайла, І. Ралько, В. Рагойша, Я. Усікаў, Ф. Куляшоў, М. Грынчык, Р. Семашкевіч, М. Пранковіч, Я. Саламевіч, дачасна памёршы таленавіты крытык і літаратуразнаўца С. Гусак.

Актыўна выступалі ў якасці крытыкаў і рэцэнзентаў некаторыя паэты і празаікі.

Ёсць у нашай крытыкі і літаратуразнаўства і зусім відавочныя недахопы. Марудна і неяк нясмела выходзяць прадстаўнікі гэтых жанраў на ўсесаюзную арэну. Толькі пераважна ў часопісах «Дружба народов» і «Вопросы литературы» ды яшчэ ў «Литературной газете» калі-нікалі друкуюцца нашы крытыкі і літаратуразнаўцы. Яшчэ радзей выходзяць у Маскве выданні іхніх прац, хаця ў справаздачны перыяд тое-сёе можна назваць і тут. Так, у 1970 годзе выйшлі ў свет першы і трэці тамы шасцітомнай «Истории советской многонациональной литературы», дзе змешчаны грунтоўныя раздзелы пра беларускую літаратуру дваццатых гадоў (аўтар — Н. Перкін) і пра літаратуру перыяду Вялікай Айчыннай вайны (аўтар — М. Барсток). Абодва беларускія раздзелы напісаны, па прызнанні ўдзельнікаў выдання, на высокім прафесійным узроўні і даюць у асноўным абгрунтаваную навуковую ацэнку нашай літаратурнай гісторыі.

Акрамя таго, розныя маскоўскія выдавецтвы надрукавалі ў апошнія гады кнігі Я. Казекі пра Кандрата Крапіву, Р. Бярозкіна пра Максіма Багдановіча і даследаванне Н. Пашкевіча «На эпическом направлении» — пра адлюстраванне беларускімі раманістамі подзвігу нашага народа ў гады Айчыннай вайны, і брашуру Ф. Куляшова «Современная белорусская проза». Як бачым, не вельмі густа...

Ды і ў самой Беларусі мала друкуецца ў поўным сэнсе праблемных артыкулаў. З году ў год скарачаецца колькасць зборнікаў крытычных артыкулаў у дакладным разуменні гэтага паняцця. Такія зборнікі ў нас друкуе галоўным чынам выдавецтва «Беларусь», але яно ў апошнія гады не праяўляе асаблівай прыхільнасці да крытычнай прадукцыі. І ўжо зусім складанай праблемай з'яўляецца перавыданне крытычнай кніжкі, калі яна даўно разышлася ці мае патрэбу ў пэўным абнаўленні. Толькі лічаныя крытыкі, літаральна адзінкі з нас могуць пахваліцца, што ім удалося перавыдаць літаратуразнаўчую манаграфію ці зборнік крытычных артыкулаў.

Слаба ў нас даследуюцца тэарэтычныя літаратуразнаўчыя праблемы, у прыватнасці пытанні партыйнасці і народнасці літаратуры сацыялістычнага рэалізму. З часоў кніг Н. Перкіна і В. Івашына пра сацыялістычны рэалізм у нас не паяўлялася новых даследаванняў у гэтым кірунку. А па праблеме партыйнасці літаратуры ў апошнія гады, здаецца, паявіўся толькі адзін больш-менш значны артыкул В. Барысенкі «Ленінскі прынцып партыйнасці літаратуры», змешчаны ў вельмі цікавым юбілейным зборніку «У. І. Ленін і літаратура».

Вяртаючыся да размовы пра недахопы нашага крытычнага фронту, трэба яшчэ сказаць, што мы марудна расцём і ў якасных і нават у колькасных адносінах. Яўна слабы, абмежаваны прыток у крытыку новых імён. Ды і ўжо вядомыя ў пэўнай меры крытыкі і літаратуразнаўцы яшчэ слаба змагаюцца з нізкім мастацкім узроўнем у літаратурнай творчасці. Крытыцы нашай у цэлым нестае баявітасці ў дачыненні да пасрэднай літаратурнай прадукцыі, да нізкай культуры пісьма і прымітывізму мастацкага мыслення. Нават з бягучым рэцэнзаваннем мы спраўляемся не заўсёды аператыўна.

Добры прыклад у гэтых адносінах не заўсёды дае і газета «Літаратура і мастацтва», якая часта рэцэнзуе некаторыя выданні пазней за часопісы. Толькі ў апошні час газета пачала шукаць сродкі больш аператыўнага ўмяшання ў бягучыя літаратурныя справы.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...



Э. Агняцвет і госць з Узбекістана А. Шарафутдзінаў.



К. Камейша, А. Бялевіч, Ю. Свірка.

# РАЗАМ З ПАРТЫЯЙ, РАЗАМ З НАРОДАМ

## Прамова кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КПБ тав. МАШЭРАВА П. М.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ...



Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў гутарыць з Р. Шырмам і М. Танкам.

Паважаныя таварышы!

Вось ужо другі дзень беларускія пісьменнікі вядуць вялікую і змястоўную размову аб зробленым за апошнія гады і аб тым, па якіх напрамках павінна развівацца наша літаратура, каб лепш служыць высакароднай справе будаўніцтва камунізма, выхаванню новага чалавека. Галоўная думка пісьменніцкага з'езда накіравана на тое, каб большым плёнам адказаць на рашэнні XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, каб літаратура ва ўсіх сваіх жанрах ішла ў нагу з нашым часам, з цудоўнымі справамі савецкага народа.

Пад уражаннем XXIV з'езда партыі знаходзімся не толькі мы, савецкія людзі, але і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва.

З'езд з'явіўся падзеяй выключнага гістарычнага значэння. Ён падсумаваў вынікі стваральнай працы партыі і народа за апошнія гады, выпрацаваў навукова абгрунтаваную праграму на новае пяцігоддзе, аглядную перспектыву.

Думаю, што няма патрэбы падрабязна гаварыць аб рабоце з'езда, паколькі вы выдатна ведаеце пра ўсё, што на ім адбывалася. Скажу толькі, што ён быў у вышэйшай ступені прадстаўнічым, што на з'ездзе панавала атмасфера выключнай дзелавітасці і глыбокага разумення важнасці праблем, якія абмяркоўваліся, высокай партыйнай прынцыповасці і патрабавальнасці, атмасфера па-ленінску творчага падыходу да справы.

Як вы ведаеце, рашэнні XXIV з'езда КПСС, яго дырэктывы па новым пяцігадовым плане атрымалі гарачае і поўнае адабрэнне дэлегатаў, усіх савецкіх людзей. Галоўная задача цяперашняй пяцігодкі заключаецца ў тым, каб забяспечыць значны ўздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа на аснове высокіх тэмпаў развіцця вытворчасці, павышэння яе эфектыўнасці, навукова-тэхнічнага прагрэсу і паскарэння росту прадукцыйнасці працы. Гэта задача выцякае з патрабаванняў асноўнага эканамічнага закона, які аб'ектыўна выражае вышэйшую мэту грамадскай вытворчасці пры сацыялізме—найбольш поўнае задавальненне матэрыяльных і культурных запатрабаванняў людзей. У той жа час яна абапіраецца на магчымасці савецкай эканомікі, якія ўзраслі, улічвае асаблівасці сучаснага этапа развіцця народнай гаспадаркі краіны, калі павышэнне дабрабыту працоўных, асабліва іх культурнага ўзроўню, становіцца адной з важных перадумоў хуткага росту вытворчасці.

На XXIV з'ездзе партыі зусім выразна прагучала думка аб усё ўзрастаючай, па меры будаўніцтва камунізма, ролі літаратуры і мастацтва ў выхаванні савецкіх людзей, у фарміраванні іх светапогляду, ідэйна-мастацкага аблічча і духоўнай культуры. З'езд канстатаваў рост ідэйна-палітычнай сталасці нашай творчай інтэлігенцыі, павышэнне яе адказнасці за змест і мастацкую паўнацэннасць твораў, якія яна стварае. «Выклікае вялікае задавальненне, — падкрэслівалася ў Справаздачы ЦК,—той факт, што плённае развіццё літаратуры і мастацтва адбываецца ва ўсіх нашых рэспубліках, на дзесятках моваў народаў СССР, у яркай разнастайнасці нацыянальных форм». Гэта высокая ацэнка з поўнай падставай можа быць аднесена і да дзейнасці беларускай пісьменніцкай арганізацыі. І тут пра гэта, як і пра многае другое, вельмі добра гаварыў тав. Маркаў і іншыя таварышы.

Трэба сказаць, што абмеркаванне справаздачнага даклада праўлення Саюза пісьменнікаў БССР на вашым з'ездзе праходзіць ажыўлена і па-дзелавому. Аддаючы належнае дасягнутым поспехам, прамоўцы, разам з тым, выказвалі зусім зразумелую заклапочанасць з выпадку з'яўлення слабых у ідэйных і мастацкіх адносінах твораў. Гэта гаворыць пра сталасць нашых творчых кадраў, іх высокае разуменне грамадзянскага абавязку, адказнасці, якую яны нясуць перад партыяй і народам. Прагучаўшыя тут патрабаванні пра павышэнне ўзроўню літаратурнай прадукцыі знаходзяцца ў поўнай адпаведнасці з указаннямі XXIV з'езда КПСС. Ён, у прыватнасці, адзначыў, што ў галіне мастацкай творчасці назіраецца шмат недахопаў, асабліва ў сэнсе якасці твораў. У Справаздачным дакладзе з'езду партыі прама гаварылася, што «ў нас усё яшчэ з'яўляецца шмат твораў неглыбокіх па змесце, невыразных па форме... Думаецца, што ўсе мы маем права чакаць ад работнікаў мастацтва большай патрабавальнасці да саміх сябе і да сваіх таварышаў па прафесіі».

XXIV з'езд КПСС дакладна і з гранічнай яснасцю сфармуляваў задачы, якія стаяць перад творчай інтэлігенцыяй. Яны з'яўляюцца галоўнымі арыенцірамі для ўсіх дзеячоў літаратуры і мастацтва, для кожнага мастака. Партыя лічыць неабходным далейшае паглыбленне і ўдасканаленне работы па выхаванні камуністаў і беспартыйных у духу высокай палітычнай свядомасці, камуністычных адносін да працы і грамадскай уласнасці, няўхільнага захавання і далейшага развіцця маральных нормаў сацыялістычнага грамадства.

XXIV з'езд запатрабаваў узмацніць усю ідэалагічную работу і, перш за ўсё, зрабіць больш актыўнай, мэтанакіраванай прапаганду камуністычных ідэалаў, канкрэтных задач нашага будаўніцтва. У гэтай галіне галоўныя нашы задачы заключаюцца ў тым, каб умець у поўнай меры перадаць шырокім масам працоўных усю сілу ідэйнай перакананасці, з поўнай аддачай, сапраўды творча падыходзіць да справы камуністычнага выхавання савецкага чалавека. У дачыненні да працы дзеячоў літаратуры і мастацтва гэта азначае неабходнасць стварэння яркіх, высокамастацкіх твораў на самыя актуальныя тэмы сучаснасці. Абнародаванне матэрыялаў з'езда застала нашых пісьменнікаў, як тут гаварылася, у добрым творчым настроі, у разгар працы над новымі творамі, якія адпавядаюць духу часу. Хочацца думаць, што пісьменнікі, зверыўшы свае творчыя планы з рытмам і духам стваральнай дзейнасці партыі, народа, зробяць у неабходных выпадках адпаведныя карэктывы і ў ажыццяўленні сваіх задум, бо сапраўдны твор мастак можа стварыць, калі яго сэрца б'ецца сугучна з патрабаваннямі эпохі.

Гаворка, вядома, ідзе не пра тое, каб «навязаць аўтарам» тыя ці іншыя актуальныя тэмы. Важна, каб у вас саміх узнікла патрэба, нават неабходнасць выказацца па найбольш хвалюючых праблемах сучаснасці, каб планы вашых творчых намаганняў зліваліся з паўнаводнай ракою клопатаў, хваляванняў і радасцей нашых сучаснікаў, з іх высакароднай стваральнай працай.

На вашым з'ездзе ў дакладзе і выступленнях была выказана зусім зразумелая незадаволенасць з прычыны таго, што сучасны савецкі чалавек з яго складаным характарам, яго новымі, перадавымі якасцямі, багатым самабытным духоўным складам усё яшчэ рэдка трапляе ў поле зроку пісьменніка. Пераадолець гэты недахоп, ліквідаваць яго—адна з самых важных праблем, якія паставіла жыццё перад пісьменнікамі.

У наш час, час пераможнага руху наперад да камунізма, няма больш надзённай, больш аб'ёмнай і ўдзячнай тэмы, чым тэма рабочага класа. Зварот да гэтай тэмы, гэта значыць да тэмы рабочага класа, яго рэвалюцыйнага, духоўнага і працоўнага вопыту несумненна ўзбагаціў бы нашу беларускую літаратуру. Сёння фарміруецца якасна новы тып працоўнага чалавека — рабочага-наватара, рабочага-інтэлігента ў самым высакародным сэнсе гэтага слова. Выконваючы абавязкі рабочага па прафесіі, ён фактычна становіцца або ўжо стаў інтэлігентам па характары, адукацыі, светаадчуванні, па сваім творчым дыяпазоне. Гэта датычыцца і маладога пакалення, якое прыходзіць на прамысловыя прадпрыемствы, будоўлі, транспарт. Возьмем хоць бы такі прыклад. На Мінскім трактарным заводзе з пяці з паловай тысяч камсамольцаў толькі дзевятнаццаць не маюць васьмігадовай адукацыі.

Менавіта ў рабочым асяроддзі складваецца чалавек, які ўвасабляе новыя сацыяльныя якасці — ідэйную перакананасць, калектывізм, высокую грамадзянскасць. Па-мастацку асэнсаваць гэты працэс — найўдзячнейшая і важнейшая задача нашых пісьменнікаў.

А якія дзівосныя змены адбываюцца ў жыцці беларускай вёскі! Цяперашняму хлебаробу даступны ўсе сродкі сучаснай цывілізацыі. Узросшая адукаванасць і культура сельскага працаўніка, тэхніка, што прыйшла ў калгасы і саўгасы, як указвалася на XXIV з'ездзе КПСС, усё больш ператвараюць яго працу ў разнавіднасць працы індустрыяльнай. А гэта, у сваю чаргу, вядзе да дабратворных змен у псіхалогіі людзей, павышае іх адказнасць перад грамадствам за вынікі сваёй працы. Хіба не заслугоўваюць гэтыя з'явы самай пільнай увагі ўсёй пісьменніцкай арганізацыі і кожнага мастака?

У творах беларускай літаратуры было нямала больш ці менш удалых спроб адлюстраваць вобраз камуніста. Аднак у нас няма буйных твораў, са старонак якіх ва ўвесь свой магутны рост устаў бы партыец-бальшавік, баец перадавой лініі барацьбы за нашы ідэалы, за шчасце працоўнага чалавека. Безумоўна, гэта праблема даволі складаная. Невыпадкова на XXIV з'ездзе КПСС падкрэслівалася, што сама гісторыя менавіта на савецкую літаратуру ўсклала вялікую задачу, якую наша літаратура калектыўна выконвае: адлюстраваць для сучаснікаў і патомкаў гераічны вобраз камуніста, сына сваёй партыі і свайго народа. Ганаровы абавязак пісьменнікаў рэспублікі заключаецца ў тым, каб унесці свой дастойны ўклад у ажыццяўленне гэтай надзвычай важнай праблемы.

А якое неаглядное поле для творчага роздуму адкрывае, напрыклад, 50-годдзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік! Увасобіць у мастацкіх творах гераічныя старонкі мінулага, звязанага з утварэннем СССР —першай у свеце шматнацыянальнай дзяржавы, пабудаванай на прынцыпах сапраўднай роўнасці вялікага мноства нацый і нацыянальнасцей — значыць вобразна паказаць, што ў нашых поспехах жыве і перамагае магутная сіла дружбы савецкіх народаў, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму.

Але нават гэта шматгранная і вечна актуальная тэма не вычэрпвае поўнасцю кола праблем, якія чакаюць сваёй распрацоўкі ў сувязі з паўвекавым юбілеем Савецкага Саюза. Пяцідзесяцігадовы шлях СССР выключна маштабны, аб'ёмны і разнастайны па глыбіні і важнасці падзей і пераўтварэнняў, якія адбыліся ў гэты час. Таленавіта і выразна паказаць усю веліч гэтай эпохі — значыць раскрыць і ўславіць вытокі народнага подзвігу, паказаць гераічныя традыцыі КПСС і нашага народа, магістральныя шляхі развіцця савецкага грамадства і дзяржавы, фарміраванне новай чалавечай сутнасці ак-

тыўнага будаўніка камуністычнага свету.

50-годдзе СССР — гэта гісторыя камбедаў, прадатрадаў і рэўкомаў, партыйных і камсамольскіх арганізацый, фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў. Тут важна правільна вырашыць цэлы комплекс складаных праблем, увасобіць у арганічным адзінстве мінулае, цяперашняе і будучае, адчуць жывую сувязь часоў і правесці нашага сучасніка дарогай ад подзвігаў ветэранаў рэвалюцыі, станаўлення Савецкай улады на беларускай зямлі, ад першых пяцігодак, абароны і памнажэння заваёў Кастрычніка да сённяшняга гераізму, да цяперашніх працоўных здзяйсненняў, гэта значыць паказаць, як сучаснае і будучае вырастае на карэннях слаўных рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцый нашага народа.

Бязмежныя магчымасці ў стварэнні нацыянальнага характару адкрывае перад літаратурай рэспублікі бессмяротны подзвіг нашага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, усенародны размах партызанскага руху ў Беларусі. І вельмі добра, калі літаратары і самі ўдзельнікі гераічных падзей імкнуцца паказаць вобразы сапраўдных герояў, якімі так багата беларуская зямля. Нашчадкі будуць бясконца ўдзячны нам за гэта, і таму пачатую работу па развіцці мастацкай дакументалістыкі, звязанай з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, трэба абавязкова працягваць. Лічу, што аб гэтым даволі добра гаварылі некаторыя таварышы ў сваіх выступленнях.

Савецкія людзі маюць права патрабаваць ад пісьменнікаў такіх твораў, у якіх былі б усебакова даследаваны вытокі народнага гераізму, узняты самыя глыбінныя жыццёвыя пласты, дзе подзвіг беларускага народа паўстаў бы ва ўсёй сваёй веліччы. Гэта, калі хочаце, сацыяльны заказ вам, таварышы пісьменнікі! Заказ нашага народа, нашай партыі!

Ніхто, вядома, не можа скідваць з разліку той факт, што «сацыяльны заказ», заказ часу, даходзіць да мастака складанымі разнастайнымі шляхамі. І для таго, каб пісьменнік данёс да чытача тую ці іншую ісціну, ён павінен перш за ўсё адкрыць яе для сябе, спасцігнуць уласным розумам, глыбока адчуць сваім сэрцам. Пытанне аб сацыяльным заказе ў поўным сэнсе гэтага слова ў нас трэба разумець як патрабаванне часу, бо інтарэсы сумленнага савецкага пісьменніка адэкватныя інтарэсам нашай партыі і савецкага грамадства. Кірунак яго творчых думак цалкам супадае з палітыкай і дзейнасцю партыі, інтарэсамі народа і нашай Радзімы, высакароднымі мэтамі савецкага грамадства.

Задача творчых саюзаў і заключаецца ў тым, каб дапамагчы мастакам узняцца да глыбокага разумення велічных мэт камуністычнага будаўніцтва, каб гэтыя мэты знаходзілі сваё канкрэтнае яркае ўвасабленне ў новых хвалюючых мастацкіх палотнах. Трэба аднак прызнаць, і гэта відаць з дыскусіі на з'ездзе, што ўзровень творчай работы ў Саюзе пісьменнікаў БССР, на жаль, пакуль што застаецца невысокі. Думаецца, што важнейшай умовай далейшай актывізацыі беларускіх пісьменнікаў павінна быць мэтанакіраванае і клапатлівае кіраўніцтва творчым працэсам.

Мы разумеем, што творчы працэс — працэс самабытны і ў аснове сваёй самастойны і што з'яўленне на літаратурным гарызонце сапраўды вялікага мастака — з'ява не такая ўжо частая, але далёка не выпадковая. Інакш кажучы, выхаванне пісьменніцкай змены не можа ісці самацёкам. Абавязак вашага саюза, партыйнай арганізацыі, аддзяленняў у абласцях, весці штодзённую работу з тымі, хто прысвяціў сябе літаратурнай працы, нялёгкай, але ў вышэйшай ступені пачэснай і неабходнай. Выхаваць творчую змену — значыць моцна яе згуртаваць, загартаваць ідэйна, навучыць карыстацца, дасканала валодаць словам як галоўным сваім інструментам. Аднак мы ўяўляем мастака не толькі як майстра, але бачым у ім і трыбуна, байца партыі, актыўнага ўдзельніка камуністычнага будаўніцтва. Народу патрэбны не дасканалыя рамеснікі, якія валодаюць толькі майстэрствам тонкага шліфавання слова, а пісьменнікі — грамадскія дзеячы, партыйныя ў самым дакладным разуменні гэтага слова: і ў сваёй творчасці і ў сваіх паводзінах, і ў жыцці. Беларусь ведае выдатную плеяду такіх мастакоў. Які велізарны ідэйны і эмацыянальны зарад нясуць у сабе творы класікаў нашай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа! Гэта іх героі вялі нашых людзей на вырашэнне складанейшых задач першых пяцігодак. Гэта іх героі разам з лепшымі мастацкімі вобразамі літаратур іншых брацкіх рэспублік і перш за ўсё вялікай рускай савецкай літаратуры натхнялі наш народ на бяссмяротныя подзвігі ў імя Савецкай Радзімы! Героі іх твораў і зараз у страі. Вялікай сілай валодаюць лепшыя творы Броўкі і Куляшова, Крапівы і Лынькова, Шамякіна і Танка, Панчанкі і Мележа, Макаёнка і многіх іншых прадстаўнікоў сучаснай беларускай літаратуры. Падрастае і пісьменніцкая змена. У асобе таленавітай, ідэйна багатай літаратурнай моладзі партыя з поўнай падставай бачыць слаўную будучыню беларускай пісьменніцкай арганізацыі.

Справа пабудовы камунізма патрабуе ад нас максімальнай аддачы сіл — і фізічных, і духоўных. У гэтай вялікай натхнёнай працы пачэснае месца належыць літаратуры і мастацтву. Трэба ясна сабе ўсвядоміць, што сапраўды высокі ўзровень культуры (акрамя вырашэння цэлага комплексу іншых праблем, вядома) будзе залежаць не толькі і не столькі ад колькасці мастацкіх твораў, якія створаны за пэўны прамежак часу, а перш за ўсё ад іх якасці. Важна, наколькі гэтыя творы з'явяцца сапраўды мастацкімі адкрыццямі, у якіх багаты ідэйны змест увасоблены ў дасканалай форме. Чалавек камуністычнага будучага адкрые новую фазу ў развіцці мастацтва, узнімецца да новых вяршынь духоўнай культуры. Але гэта стане магчымым толькі пры ўмове, калі мы ўжо сёння будзем узбагачаць нашага сучасніка выдатнымі творамі літаратуры і мастацтва.

На вашым з'ездзе самакрытычнае прызнанне атрымаў той факт, што пры ўсёй бясспрэчнасці дасягнутых поспехаў узровень некаторых твораў сучаснай беларускай літаратуры не адпавядае ў поўнай меры ўзросшым ідэйна-мастацкім крытэрыям. З гэтым нельга не згадзіцца. У апошнія гады грамадскасць рэспублікі не раз выказвала сваю незадаволенасць з прычыны таго, што на старонках беларускіх часопісаў з'яўляліся слабыя ў ідэйна-мастацкіх адносінах творы, якія часам даюць скажоную трактоўку важнейшых з'яў нашай рэчаіснасці. Мы нярэдка яшчэ сутыкаемся з пазакласавай, пазагістарычнай інтэрпрэтацыяй чалавечых характараў у літаратуры, з абстрактным разуменнем духоўных і маральных каштоўнасцей.

Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў рэагавала на гэта не заўсёды з патрэбнай прынцыповасцю, не выкарыстоўвала ўсе магчымасці для сур'ёзнай, удумлівай размовы. Займаючыся пераважна арганізацыйна-бытавымі пытаннямі (справай, безумоўна, важнай і патрэбнай) яно ўсё-такі мала ўвагі ўдзяляла выпрацоўцы калектыўнай пісьменніцкай думкі па кардынальных творчых праблемах. Думаецца, гэта сур'ёзнае ўпушчэнне ў дзейнасці саюза.

Мы не раз пераконваліся, што пралікі ідэйнага і мастацкага парадку не ўзнікаюць выпадкова, з прычыны якіх-небудзь нязначных абставін. Як правіла, яны адлюстроўваюць пралікі больш глыбокія — метадалагічныя. Іх асновай у многіх выпадках з'яўляецца блытанае, расплыўчатае разуменне важнейшых марксісцка-ленінскіх філасофска-эстэтычных катэгорый, суадносін прынцыпаў партыйнасці і народнасці, недастатковае ўменне карыстацца невычэрпнымі магчымасцямі метаду сацыялістычнага рэалізму.

Значыць, на першы і галоўны план аб'ектыўна вылучаецца задача выпрацоўкі мастацкага і філасофскага светапогляду пісьменніка. Бо самая надзейная аснова мастацкай творчасці — гэта глыбокае веданне марксісцка-ленінскай тэорыі і практыкі камуністычнага будаўніцтва, непахісная ідэйная перакананасць мастака. Вось чаму Саюз пісьменнікаў, яго партарганізацыя павінны паўсядзённа працаваць над фарміраваннем светапогляду пісьменнікаў, асабліва моладзі, над павышэннем яе чалавеказнаўчага майстэрства.

Савецкая літаратура — адзін з вядучых ідэалагічных атрадаў, байцы якога ідуць у першай шарэнзе атакуючага класа і закліканы бескампрамісна весці барацьбу за нашы камуністычныя ідэалы. Гэта значыць, што пісьменнікі павінны звяртацца да тэм, якія знаходзяцца на стрыжні жыцця і сучаснай ідэалагічнай барацьбы, падыходзіць да жыццёвай праблематыкі і ацэнкі сваёй творчасці з марксісцка-ленінскіх метадалагічных пазіцый. Гэта асабліва важна, больш таго, востра неабходна ў сучасных умовах, калі ў свеце, нарастаючы, ідзе непрымірымая бітва за розум, сэрцы людзей. Настойлівыя і ярасныя атакі нашы ідэалагічныя праціўнікі вядуць і ў галіне літаратуры і мастацтва, а ў апошні час імперыялістычныя колы ўсё часцей выкарыстоўваюць літаратурны фронт для вядзення ідэалагічнай вайны. І, як справядліва адзначалася на XXIV з'ездзе КПСС, да таго часу, пакуль на зямлі існуюць дзве антаганістычныя сацыяльныя сістэмы, пакуль грымяць ідэалагічныя бітвы, вораг не адмовіцца ад наскокаў на наш светапогляд, ад спроб падначаліць свайму ўплыву недастаткова сталых у палітычных адносінах людзей. Больш таго, з ростам нашых поспехаў, з узмацненнем ідэалагічнага змагання дыверсіі буржуазнай прапаганды будуць рабіцца ўсё больш каварнымі і вытанчанымі.

Змаганне за розум і сэрцы людзей не можа скончыцца перамір'ем, і, тым больш, мірам. Вынік гэтага змагання відавочны. Перамога сацыялізма, ідэалогіі марксізма-ленінізма ў міжнародным маштабе непазбежная. Тым не менш мы павінны ўзмацняць нашы намаганні ў барацьбе з буржуазнай ідэалогіяй. І партыя робіць усё для таго, каб усе сродкі ідэйнага ўздзеяння з вялікім плёнам працавалі на камунізм. З поўнай аддачай павінна выкарыстоўвацца і такая грозная зброя, як слова праўды пра наш народ, наша жыццё, пра камунізм. Нашы ідэалагічныя праціўнікі не змогуць супрацьстаяць такой магутнай, усёперамагаючай сіле, якую мае вялікая праўда аб першай у свеце краіне сацыялізма.

Партыйныя, дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, усе ўчасткі літаратуры і мастацтва, якія дзейнічаюць зладжана і ініцыятыўна, павінны ўзмацніць крытыку тэорыі і практыкі сучаснага капіталізму, рэфармізму і рэвізіянізму. Трэба актыўна развенчваць буржуазную антынародную ідэалогію, палітыку, мараль, прывіваць савецкім людзям і асабліва падрастаючаму пакаленню дух класавай непрымірымасці да варожых сацыялізму ідэй, традыцый і нораваў.

Неабходна таксама пільнасць, добрае веданне праціўніка, усіх яго каварных прыёмаў, метадаў і спосабаў, бо буржуазная літаратура зусім не абыякавая да палітыкі, як гэта спрабуюць прадставіць яе апалагеты. Усе ўльтрамодныя плыні — гэта карты ў вялікай палітычнай гульні, аб'ектыўныя тэндэнцыі якой вырастаюць з сацыяльных умоў, увасабляюць погляды і намаганні самых рэакцыйных колаў. Іх мэта — адвесці масавага чытача ад роздуму над актуальнымі праблемамі часу, у свет сексу, паталогіі і містыкі, падмяніць сапраўдныя каштоўнасці сурагатам, прыгатаваным на імперыялістычнай прапагандысцкай кухні і прызначаным для духоўнага разбэшчвання асобы.

Не заўважаць гэтага, тым больш цярпліва ставіцца да варожых падкопаў — значыць наносіць шкоду справе камуністычнага будаўніцтва. У. І. Ленін неаднаразова востра крытыкаваў і раўнадушных назіральнікаў, якія цалкам давяраюцца стыхіі жыццёвых хваляў, і «ідэалагічных міратворцаў», якія страцілі адчуванне праціўніка і дух барацьбітоў, і тых, хто збочыў з правільнага шляху, адмежаваўся ад сацыялістычнай ідэалогіі і мімаволі трапіў у лабірынт буржуазнай і дробнаўласніцкай ідэалогіі.

Адсюль вынікае патрабаванне рашучага пераадолення ў мастацкай творчасці індэферэнтнасці і ідэйнай няпэўнасці, задача ўсямернага ўзмацнення наступальнага характару нашай літаратуры, якая не можа ўхіляцца ад актыўнай прапаганды камуністычнай ідэалогіі, савецкага ладу жыцця. У кожным мастацкім творы павінен быць закладзен магутны зарад жыццесцвярджэння, выразна гучаць думка, што працэс сацыялістычнага абнаўлення свету, нараджэння новага, свабоднага чалавека, які пачаўся ў кастрычніку семнаццатага года, незваротны.

Прамыя заўвагі ў адрас літаратурных работнікаў мы робім галоўным чынам таму, што наша размова сёння вядзецца аб літаратурных справах. А ўвогуле іх можна і трэба аднесці і да іншых ідэалагічных участкаў і ў першую чаргу да работнікаў тэарэтычнага фронту. Нельга лічыць нармальным, напрыклад, што асобныя нашы вучоныя-грамадазнаўцы ў ідэалагічнай барацьбе часта абмяжоўваюцца палемікай з буржуазнымі ідэолагамі, апартуністамі і рэвізіяністамі ў плане абароны. Наш абавязак — весці актыўнае ідэалагічнае наступленне, да канца выкрываць антынародную сутнасць імперыялізму.

Неабходнай умовай правільнага палітычнага выхавання У. І. Ленін лічыў усебаковае палітычнае выкрыццё звярынага аблічча капіталізму, буржуазных парадкаў і нораваў. Крытыку імперыялізму, капіталістычнага прыгнёту і гвалту неабходна падмацоўваць яркім і пераканаўчым паказам характару і пераваг нашага грамадскага ладу, прынцыпаў савецкага жыцця. Калі ўважліва прааналізаваць тое, што робіцца ў гэтым напрамку, нельга не заўважыць занадта агульнай, а таму і мала пераканаўчай аргументацыі некаторых важных палажэнняў. Гэты недахоп, у прыватнасці, дапускаецца тады, калі размова заходзіць пра сацыялістычную і буржуазную дэмакратыю, пра наш і буржуазны гуманізм, пра свабоду асобы, правы чалавека ў нас і ў краінах капіталу. Наша рэчаіснасць дае важкія доказы рашучай перавагі савецкай дэмакратыі, сацыялістычнага гуманізму, прававога становішча савецкага чалавека ў параўнанні з дэмакратыяй і статусам асобы ў буржуазных дзяржавах.

Дазвольце, таварышы, зноў вярнуцца да пытанняў літаратурнага жыцця. Няма сумнення, што сучасную беларускую літаратуру робяць не асобныя пісьменнікі, а вялікі калектыў Саюза пісьменнікаў БССР. Зразумела, літаратурная прадукцыя гэтага калектыву не раўнацэнная ў мастацкіх адносінах, але разглядаць яе трэба аб'ектыўна і непрадузята. У гэтай сувязі абавязак літаратуразнаўцаў і крытыкаў — паважаць і берагчы ўсё каштоўнае, натхнёнае барацьбой партыі і народа за сацыялізм, даваць адпор розным паклёпніцкім нападкам на нашу гераічную літаратуру.

Будучы цвярозымі рэалістамі, мы не тоім і таго, што ў складанай рабоце па будаўніцтве новага былі і могуць быць памылкі, балючыя з'явы, нават цяжкія драмы, але галоўным у пісьменніцкім светапоглядзе павінна быць іншае. «На кожную сотню нашых памылак, пра якія крычаць на ўвесь свет буржуазія і яе лакеі...,— пісаў Уладзімір Ільіч у «Лісце да амерыканскіх рабочых» у 1918 годзе, — прыходзіцца 10 000 вялікіх і геройскіх актаў — тым больш вялікіх і геройскіх, што яны простыя, нябачныя, схаваныя ў будзённым жыцці фабрычнага квартала або вясковага закутка, зробленыя людзьмі, якія не прывыклі (і не маюць магчымасці) крычаць аб кожным сваім поспеху на ўвесь свет».

Гэтыя словы надзвычай ярка выражаюць аптымістычную дыялектыку нашага савецкага жыцця, гераічны пачатак у чалавечай душы. Сучасная беларуская літаратура якраз стаіць перад неабходнасцю далейшага развіцця і ўзбагачэння свайго гераічнага пачатку — паказаць працоўную самаадданасць савецкага чалавека, вышыню яго грамадскага і маральнага духу, разуменне абавязку перад грамадствам, сілу і мужнасць.

На наш погляд, галоўнай умовай далейшай актывізацыі беларускіх літаратараў з'яўляецца тое, у якой ступені кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў БССР авалодае ходам творчага працэсу, умацуе сувязь пісьменнікаў з сённяшнім днём рэспублікі, з народнымі запатрабаваннямі, з жыццём. Сёння асабліва важна для нас памятаць указанне Леніна, які, гаворачы аб сувязі з рэчаіснасцю, у супрацьлегласць апартуністам, тэарэтыкам «малых спраў», што разумелі пад жыццёвымі буднямі «толькі балота, калі жыццё ледзь-ледзь рухаецца наперад», меў на ўвазе «ўрокі рэвалюцыйнага жыцця», «бурную плынь рэвалюцыі, якая выражае самыя глыбокія патрэбы жыцця». Урокі сапраўднага жыцця трэба браць сёння перш за ўсё на буйнейшых новабудоўлях камунізма, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, навуковых установах, там, дзе ў ходзе стварэння капітальнейшых матэрыяльных каштоўнасцей, ідзе грандыёзная работа па выхаванні і фарміраванні камуністычнага характару. Менавіта там трэба шукаць тэмы і герояў мастацкіх твораў і на іх аснове ствараць вобразы тых, хто ідзе наперадзе.

Некалькі слоў аб стане нашай крытыкі. Глыбінныя якасныя зрухі, што акрэсліліся ў беларускай літаратуры апошніх год, у пэўнай ступені падрыхтаваны несумненным ідэйна-эстэтычным уздзеяннем крытыкі. І ўсё ж, калі весці гаворку па вялікім рахунку, літаратурная крытыка ў рэспубліцы развіваецца яшчэ марудна, пра-

цуе непрадукцыйна. Найбольш важныя прынцыповыя праблемы сучаснай літаратуры — праблема станоўчага героя і эстэтычнага ідэалу, праблема канфлікту, суадносін сацыяльнага і маральнага ў творчасці, сцвярджальнага і крытычнага — гэтыя важныя пытанні пакуль што абмінаюцца нашай літаратурнай крытыкай. Недастатковая ўвага пакуль што надаецца аналізу праблем, якія звязаны з ідэйна-мастацкім станаўленнем і развіццём розных жанраў беларускай літаратуры, глыбокаму асэнсаванню гэтых працэсаў.

Прывяду такі прыклад. У гэтым годзе Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР выпусціў манаграфію «Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс». Але гэта пакуль што адзіная манаграфія такога роду. Прыблізна ў такім жа недаследаваным стане знаходзяцца і некаторыя іншыя жанры беларускай літаратуры.

На наш погляд, крытыка не вядзе па-сапраўднаму глыбокай размовы аб неабходнасці ўсебаковага ведання жыцця, павышэння ідэйнага ўзроўню і ўдасканалення мастацкай формы твора, некаторыя літаратурна-крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы і нават манаграфіі носяць суб'ектыўны характар. Іх аўтары ўдумлівы аналіз твораў падмяняюць гэткім лёгкаважкім падыходам, імкнучыся пабудаваць тэарэтычныя палажэнні на суб'ектывісцкіх ацэнках: «я», «мы», «мне здаецца». Заганнасць такога падыходу відавочная. Асуджаючы спробы адвольнага тлумачэння вартасцей і недахопаў мастацкіх твораў, Бялінскі гаварыў, што выразы «мне падабаецца, мне не падабаецца» могуць мець сваю вагу, калі размова ідзе аб стравах, вінах, рысаках, ганчаках і г. д. І тут могуць быць нават свае аўтарытэты. Але калі справа ідзе аб з'явах гісторыі, навукі, мастацтва, маралі, там усялякае «я», якое выносіць прысуд самастойна і бяздоказна, грунтуючыся на сваім асабістым пачуцці, не можа служыць падставаю для правільных навуковых вывадаў.

Гэта хрэстаматыйная ісціна — аснова асноў крытыкі. Але напамінаць аб ёй даводзіцца, бо на практыцы беспрынцыповасць, нават літаратурная бездапаможнасць усё яшчэ маюць месца. Мы плацім надзвычай дорага за зніжэнне ідэйных і эстэтычных крытэрыяў, дэзарыентуем чытача, гледача, слухача ў тых выпадках, калі крытыка памяркоўна ставіцца да шэрых і пасрэдных твораў. Рэдакцыйныя калегіі часопісаў і выдавецтваў часам праяўляюць недапушчальную згаворлівасць, лагоднасць, друкуючы творы, якія знаходзяцца яшчэ толькі на подступах да мастацтва. Шэрасці, пасрэднасці, безгустоўшчыне, ліберальнаму стаўленню да таго, што ўяўляе сабою падробку, імітацыю мастацтва, трэба супрацьпаставіць высокую патрабавальнасць і прынцыповасць.

Мы лічым важнай агульнай задачай павышэнне метадалагічнага і прафесійнага ўзроўню крытыкі і літаратуразнаўства, правядзення органамі друку прынцыповай палітыкі ў галіне літаратуры і мастацтва.

Таварышы! У сваім прывітанні ЦК Кампартыі Беларусі станоўча ацаніў дзейнасць рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Адказныя задачы, што стаяць перад нашымі пісьменнікамі, вынікаюць з рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Партыя надавала і надае шмат увагі павышэнню ідэйнага і мастацкага ўзроўню нашай літаратуры і той ролі, якую яна адыгрывае ў сацыялістычным грамадстве.

Няма сумнення, што пісьменнікі Беларусі яшчэ шчыльней згуртуюць свае сілы і ўсю сваю творчую дзейнасць прысвецяць высакароднай справе служэння народу, партыі, справе камуністычнага выхавання працоўных.

Дазвольце пажадаць вам, дарагія таварышы, творчага натхнення і вялікіх поспехаў.

**(Прамова тав. Машэрава П. М. была выслухана з вялікай увагай і неаднаразова перапынялася апладысментамі).**



Дэлегаты і госці з'езда ўшанавалі памяць Янкі Купалы і Якуба Коласа.

# СПРАВАЗДАЧА РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ

## ДАКЛАД СТАРШЫНІ КАМІСІІ МІКАЛАЯ ГАРУЛЁВА

Як адзначалася ў справаздачным дакладзе першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Максіма Танка, у перыяд паміж нашымі з'ездамі мы творча адзначылі вялікія палітычныя падзеі ў жыцці савецкага народа — 50-годдзе Вялікага Кастрычніка, 50-годдзе Савецкай Беларусі і Кампартыі рэспублікі, 100-годдзе з дня нараджэння заснавальніка Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы У. І. Леніна, былі сведкамі і ўдзельнікамі небывалага палітычнага ўздыму працоўных, які быў выкліканы XXIV з'ездам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. У гэты актыўны прамежак часу Саюз пісьменнікаў не толькі настойліва працаваў як творчая арганізацыя, каб узбагаціць родную літаратуру новымі творамі, але і правёў значную арганізацыйную работу. Дастаткова сказаць, што ў гэтыя гады перад працоўнымі адбылося больш 20 тысяч выступленняў нашых пісьменнікаў, а напярэдадні XXIV з'езда КПСС у абласцях рэспублікі праведзены Дні літаратуры, на якіх адбылася шчырая размова пра нашы здабыткі і недахопы, на якіх рабочыя, калгаснікі і інтэлігенцыя выказалі свае меркаванні і свае думкі пра творы беларускай літаратуры.

У справаздачны перыяд, як і ў папярэднія гады, дзейнасць нашага Саюза пісьменнікаў падмацоўвалася неабходнымі выдаткамі як па Саюзе пісьменнікаў, так і па Беларускім аддзяленні Літфонду СССР, які накіроўвае свае намаганні на тое, каб садзейнічаць творчай рабоце пісьменнікаў, паляпшаць іх матэрыяльна-бытавое становішча, медыцынскае абслугоўванне, аказваць дапамогу маладым аўтарам.

За час паміж V і VI з'ездамі пісьменнікаў Беларусі 170 літаратараў адпаведна са сваімі творчымі задумамі наведалі калгасы і саўгасы, новабудоўлі рэспублікі і краіны, мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Ільіча Леніна. Рэвізійная камісія адзначае, што сродкі выдаткоўваліся правільна, у адпаведнасці з рашэннямі сакратарыята Саюза пісьменнікаў. Аднак у асобных выпадках, як паказалі вынікі рэвізіі, камандзіровачныя пасведчанні выдаваліся не ў тыя пункты, куды накіроўваў пісьменніка сакратарыят, а пісьменнік іншым часам ехаў не туды, куды накіроўвала яго камандзіровачнае пасведчанне. Рэвізійная камісія адзначае таксама, што справаздачы па творчых камандзіроўках недаравальна зацягваюцца.

З трыбуны мінулага з'езда я ад імя рэвізійнай камісіі выказаў пажаданне, каб да чарговага з'езда Саюз пісьменнікаў набыў новае памяшканне, каб былі прыняты адпаведныя меры да пашырэння Дома творчасці імя Якуба Коласа.

Зараз Інстытут «Мінскпраект» выконвае праект Дома літаратараў і Літаратурнага музея БССР. У гэтым будынку, акрамя службовых памяшканняў, будзе актавая зала на 400 месц, кафэ на 50 месц, зала пасяджэнняў прэзідыума, бібліятэка з чытальняй, більярдная. Будаўніцтва дома намячаецца пачаць у 1972 годзе.

Інстытут «Белкамунпраект» распрацоўвае праект Дома творчасці імя Якуба Коласа. У ім прадугледжаны шасціпавярховы галоўны корпус на 42 аднапакаёвыя і 6 двухпакаёвых пісьменніцкіх рабочых кабінетаў, клуб-сталовая на 100 месц, памяшканне бібліятэкі, більярдная, глядзельная зала на 100 месц, дапаможны корпус, васьмікватэрны дом для супрацоўнікаў, спартыўныя пляцоўкі. Пачатак будаўніцтва — 1972 год.

З 1966 года па сакавік 1971 года многія беларускія пісьменнікі, якія жывуць у Мінску, атрымалі новыя кватэры і палепшылі жыллёвыя ўмовы.

На мінулым з'ездзе я ўжо гаварыў, у якіх умовах працуюць наша бібліятэка і паліклініка. Пакойчык бібліятэкі не змяшчае нават тых двух тысяч тамоў, якія яна мае на сваіх паліцах. Што датычыць паліклінікі, якая знаходзіцца ў паўпадвальным памяшканні, дык яна, нягледзячы на цяжкія ўмовы, абслугоўвае звыш паўтары тысячы чалавек — пісьменнікаў, членаў іх сем'яў, супрацоўнікаў рэдакцый друкаваных органаў саюза. У новым праекце Дома літаратараў паліклініка не знайшла сабе месца. Думаю, што новы склад праўлення прыме ўсе захады, каб паліклініка атрымала добраўпарадкаванае памяшканне з усімі неабходнымі кабінетамі.

У заключэнне хочацца зрабіць некалькі заўваг — самакрытычных у адрас рэвізійнай камісіі і крытычных у адрас сакратарыята Саюза пісьменнікаў. Мы, члены рэвізійнай камісіі, працавалі недастаткова актыўна. Праўда, за справаздачны перыяд мы правялі рэвізіі Гродзенскага і Магілёўскага аддзяленняў Саюза пісьменнікаў, бюро прапаганды Беларускага аддзялення Літфонду СССР. Але саюз мае свае друкаваныя органы, і там багата праблем, якімі трэба было б пацікавіцца нашай камісіі. З другога боку, як гэта ні дзіўна, сакратарыят рабіў выгляд, што рэвізійнай камісіі праўлення не існуе. Чым інакш можна вытлумачыць той факт, што за справаздачны перыяд старшыня камісіі ні разу не быў запрошаны на пасяджэнне сакратарыята, дзе вырашаліся пытанні, важныя для жыцця нашай пісьменніцкай арганізацыі. Гэта таксама трэба ўлічыць новаму складу праўлення.

Таварышы! Дзякуючы нястомным клопатам Камуністычнай партыі і ўрада аб развіцці савецкай літаратуры, у нас створаны ўсе ўмовы для плённай працы творчай інтэлігенцыі. Наш абавязак — апраўдаць спадзяванні, якія ўскладаюць на нас партыя і народ.

---

**Спрэчкі па дакладзе першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Максіма Танка будуць надрукаваны ў наступным нумары штотыднёвіка.**

## РУБЯЖЫ КІНАРАБОТНІКАЎ

1 295 новых кінаўстановак з'явілася ў рэспубліцы за гады восьмай пяцігодкі. У гарадах за гэты тэрмін увайшлі ў строй 32 кінатэатры на 13 850 месц. Цяпер кіназалы гарадоў і вёсак БССР могуць адначасова прыняць 160 тысяч гледачоў. У 11 разоў узрасла за пяцігодку колькасць сельскіх шырокаэкранных кінаўстановак.

Гэтыя і многія іншыя даныя, якія характарызуюць кінаабслугоўванне насельніцтва, былі прыведзены ў дакладзе старшыні Камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі П. П. Бяляўскага «Аб стане і мерах па далейшым паляпшэнні кінаабслугоўвання насельніцтва ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС», зробленым 28 красавіка на рэспубліканскай нарадзе работнікаў кінафікацыі і кінапракату.

Удзельнікі нарады прынялі сацыялістычныя абавязацельствы на першы год новай пяцігодкі. У іх, у прыватнасці, прадугледжана адкрыць дзевяць буйных кінатэатраў у гарадах, перавесці на шырокі экран яшчэ 265 кінаўстановак у вёсках, абслужыць не менш чым 121 мільён гледачоў і значна палепшыць прапаганду лепшых твораў савецкага кінамастацтва.

БЕЛТА.

## УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

**Аб узнагароджанні беларускай рэспубліканскай маладзёжнай газеты «Чырвоная змена» («Красная смена») ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга**

За плённую работу па камуністычным выхаванні моладзі, мабілізацыю яе на выкананне задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ўзнагародзіць **беларускую рэспубліканскую маладзёжную газету «Чырвоная змена» («Красная смена»)** ордэнам **Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ПАДГОРНЫ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.**

Масква, Крэмль,
28 красавіка 1971 г.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння галоўны дырыжор Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР ЦІХАНАЎ Кірыла Кляменцьевіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

●

*За шматгадовую актыўную работу ў паліграфічнай прамысловасці і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку МІУСКІ Мікалай Георгіевіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ

## РАДА-ПАРАДА



*Іван Шамякін*

**На Парнасе зноў аўрал:**
**Зямляк мой — першы генерал.**
**І гэта менавіта ён**
**Вядзе праз Оршу эшалон.**
**Да чытача імчыць на ім**
**Ён праз віхуры «Снежных зім».**



*Аркадзь Куляшоў*

**Увечары, удзень і рана**
**Імкне Аркадзь да Акіяна.**
**І ветразь ўзнят яго высока,**
**А ўсё пытае: «Ці далёка!»**



*Аляксандр Міронаў*

**Марак, палярнік, публіцыст,**
**Ваду ён любіць, марыніст.**
**У том яго любы нырні —**
**І не дастанеш глыбіні.**

*Андрэй Макаёнак*
*і Мікалай Матукоўскі*

**Самлеўшы, ўся чакае зала**
**«Амністыі» і «Трыбунала».**
**Каб лепей разабрацца тут,**
**Стварыце, хлопцы, шчэ й «Прысуд».**

*Пімен Панчанка*

**Даўно не друкаваўся ў «Ліме»**
**Наш мудры летапісец Пімен.**
**Сваё чарговае сказанне**
**Пачні зноў з «Кнігі вандраванняў».**

Павел МІСЬКО

## ПАЧОМ СЁЛЕТА ПЕГАСЫ?

НЕХТА ўвёў у вушы маёй дачцы, што на рынку прадаюць усялякіх сабачак, трусікаў. Падняла гвалт: «Вядзі!»

Павёў. Усё чысценька мы там агледзелі — ад рыбак да сабак і кароў. Як раптам...

— Эй, сябра, прывітанне!

Гляджу — стаіць у самым кутку знаёмы паэт, прадае Пегаса. Я сам сабе не паверыў спачатку, ажно — ён! Падышоў, паручкаліся, пагаманілі пра тое-сёе...

— Патрымай, — кажа сябра, — гэтае быдла. Збегаю піва каўтну, нешта ў роце перасохла.

Я ўзяў, як той дурань, аброць.

— Слухай, — залапаў па сваіх кішэнях паэт. — Ліха на яго! Дай да заўтра пяцёрку. Музай клянуся — аддам!

Я даў. Схапіў паэт пяцёрку і згінуў з вачэй. А Пегас стаіць, унурыўшыся, губа ніжняя адвісла, відны сцёртыя ад усёяднасці зубы. А губы абдзёртыя, прыпухлыя... Дастаецца, мабыць, яму кухталёў у нюхаўку!

— Я хачу пакатацца! Хачу пакатацца на коніку! — падскоквае дачка.

— Сціхні, — кажу. — Падбрыкне, дык і паляціш цераз голаў. Альбо да неба падымецца — што тады рабіць будзеш?

А ў Пегаса ўсе рэбры можна пералічыць, поўсць каўтлякамі вісіць, грыва выцерта, капыты збіты, левае крыло абвісла, як зламанае, правае напалову абскубленае. Пра хвост і гаварыць брыдка — валасін дзесяць, не болей. Да чаго давёў жывёліну!

А Пегас раптам заварушыўся, пераступіў нагамі, нагнуў галаву і давай гломздаць пад нагамі нейкі дзяркач.

— Прадаеш?—чую над вухам.

Гляджу — двое цыганоў.

— Угу... — адказваю, а сам думаю: «Ліха на яго, папёр і не сказаў, колькі прасіць».

— А што — на мыла не ўзялі? — старэйшы цыган падколвае.

— Не вывараш з гэтых маслоў ніякага клёку. На клей хіба, — малодшы кпіць.

— Ідзіце, куды ішлі! — ускіпеў я. — Сам купіў.

— Ну, ты не вельмі... Колькі хочаш за рысака?

«Чорт яго ведае, пачом сёлета Пегасы... Хаця б не прадзешавіць!» — думаю я.

— Рубля даць? — насядае малодшы цыган.

— Памажы падняць, будзем мяняць... Хі-хі-хі! — віскнуў другі.

— Рубля? Вунь за сабаку пяцьдзесят рублёў просяць. А гэта ж Пегас, а не цюцька лысы!

— А нам што пегі, што дэраш, — кажа цыган.— Дваццаць — і твой магарыч. Га?

Урэшце цыганы адчапіліся. А тут і сябра падышоў: падвяселены, рухавы.

— Ну, што добрага чуваць?

— Што ж ты цаны не сказаў? — наваліўся я на яго. — Давалі цыганы дваццаць рублёў, дык я схлусіў, што не прадаю.

— Ну-у? Дваццаць рублёў? А ў мяне ж ніхто за цэлы дзень і не папытаў! Ну і дурань ты!

Я ўжо і сам бачыў, што дурань. Нашто мне ўвесь гэты гандаль?

— Забірай, — кажу, — сваю жывёліну, няма мне калі...

— Пачакай, — адказвае сябра, — я прабягу, можа, знайду тых пакупнікоў...

Чакаць ды чакаць — няма паэта. Так да вечара і не прыйшоў. Узяў я Пегаса за аброць ды і павёў. А ён упіраецца. Я на яго і рукамі, і дубцом махаю:

— Но-о! Ну-у!!

— Каго ты запрог? Спіць, як пшаніцу прадаўшы... Ты ж збіраўся на рынак дачку звадзіць..., —гаворыць Пегас жончыным голасам.—Званю будзільнікам над вухам, а ён хоць бы што!

Я лыпнуў вачыма: дык гэта сон? Дык гэта я толькі збіраюся на рынак? А дзякаваць жа богу... Бо што б я з ім рабіў, з Пегасам?

## МІМАХОДЗЬ

**Працаваць з халадком можна і без вентылятара.**

⊙

**Бухгалтара празвалі ілюзіяністам: лічбы для справаздачы ён браў са столі.**

⊙

**Грубіян-перастрахоўшчык пачынаў сваю гаворку словамі: «Груба кажучы...»**

⊙

**Жыццё лірыка было адной прозай.**

⊙

**Кухара звольнілі з займаемай пасады за тое, што ён варыў ваду.**

⊙

**Загадчык крамы, сустракаючы рэвізора, гаварыў: «Будзьце ласкавы!»**

**Уладзімір РУДЗІНСКІ**

**У майстэрні па рамонце абутку ніхто не адставаў, чаго нельга было сказаць пра падэшвы.**

⊙

**Пра яго казалі: дзе тонка, туды і рвецца.**

⊙

**— Дастукаўся, — гаварылі пра каваля, які трапіў на лаву падсудных.**

**Аляксандр ЛІХАЧ**

## СМЯЮЦЦА НЕМЦЫ

— Які ў цябе шыкоўны капялюшык! Проста паэма!

— Я таксама думала. Але калі муж даведаўся, колькі ён каштуе, ён зрабіў з гэтага драму.

⊙

— Вам сумна на Шылеры, пан Кругер?

— Што вы, пані Ірэна! Каб я сумаваў у вашай прысутнасці! Ды я б нават што-небудзь з Гётэ глядзеў!!

⊙

Хворы, прыехаўшы на курорт, кажа гаспадару:

— Я чуў, што ў вас тут дзьмуць толькі паўднёвыя ветры. А сёння вецер з поўначы.

— Гэта таксама паўднёвы вецер, які вяртаецца з поўначы.

⊙

— Падсудны, чаму вы не вярнулі пярсцёнак яго ўладальніку?

— Як жа я мог яго вярнуць, калі на ім напісана: «Навекі твой».

⊙

Прафесар у часе лекцыі:

— Вы бачыце ў маіх руках чэрап гарылы. Такія чарапы сустракаюцца вельмі рэдка. У нашым горадзе іх толькі два. Адзін у музеі, а другі належыць мне.

⊙

— Каханы, я з радасцю падзялю і тваё гора, і твае радасці.

— Але ж, дарагая, у мяне няма ні гора, ні радасці.

— О, яны прыйдуць, калі мы пабярэмся!

Пераклаў А. БУБЕН.

## З англійскага гумару

**Размаўляюць два бізнесмены. Раптам адзін з іх гаворыць:**

**— Ёсць многа спосабаў рабіць грошы. Але, наколькі я ведаю, толькі адзін з іх — сумленны.**

**— Гэта які? — пацікавіўся другі.**

**— Ага! — з выглядам пераможцы ўсклікнуў першы. — Я так і ведаў, я быў упэўнены, што вы яго не ведаеце.**

⊙

**Дзяўчынка, гуляючы з мамай па вуліцы, убачыла кошку ў скрынцы для смецця.**

**— Мама, глядзі, нехта выкінуў кошку, а яна яшчэ зусім новенькая.**

⊙

**Карабель пацярпеў крушэнне. Адзін з пасажыраў усплывае на паверхню, чапляючыся рукой за якоесьці бервяно. Другой рукой ён начапіў манокль і, пагладжваючы падбародак, сказаў:**

**— Так, так, так... На чым гэта я спыніўся? Ага!.. Ратуйце!**

Пераклад **Э. Іофе.**

## З ПАДСЛУХАНАГА

— Чаго гэта ты, Пятровіч, сёння такі радасны?

— Госці прыехалі.

Праз два дні.

— Зноў, бачу, у суседа радасць?

— Не кажыце, госці, урэшце, паехалі!

⊙

— Ён цёнгле хадзіў, чамусьці, сонны.

— Жыў не так, як кішэня дазваляла, а як сны бачыліся.

⊙

— Збыў, дзеткі, наш бацька клопат: усю палучку ў рэстаран аднёс.

⊙

— Ён меў звычай казаць толькі «но». Запрагалі за яго іншыя. Вось і даездзіўся.

Запісаў М. КОЗЕЛ.

— Ну і ўзяў мой сынок прыгажуню! Ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць. А што за характар! Перасварылася з усімі суседзямі! І дзе толькі ў яго вочы былі? Куды яны глядзелі?!

— Ды вядома, куды! У ашчадную кніжку нявесты!

Запісаў М. ШАВЕЛЬ.

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

*Асцярожна! Не пафарбавана!!*

⊙

*Каб не памыліцца, ён усё жыццё вывучаў памылкі вялікіх.*

⊙

*І гара пойдзе да Магамета, калі ён начальнік.*

⊙

*Не ўсё цэняць, што любяць.*

⊙

*Быў бы загад, іншы і зоркі пералічыць.*

⊙

*Валу ўсёроўна, якая муха яго ўкусіць.*


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

 Індэкс 63856

АТ 08200

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, В. М. АЛАДАЎ, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.